# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 49 (311) 12 — 19 снежня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ





**А чаму б і не скарыстаць напярэдадні Года Тыгра гэтых прыгажуноў дзеля ўласнай рэкламы?**

*Усе прыгожыя і мужныя чытаюць "Культуру"!*

**Да завяршэння падпіскі засталося 2 дні. Выбірайце індэкс 63875.**

*Рэпліка*

# У СТЫЛІ МАДЭРН

## ПОГЛЯД З СЯРЭДЗІНЫ

Парнаграфія мае права на існаванне — яна служыць пэўным мэтам, і забарона ўсё роўна ні да чаго не прывядзе. Але выкідваць са сцэны каханне?!

Дзелавіты, хай і стылізаваны палавы акт (між іншым, як сабакі) не быў рэдкасцю ў фестывальных паказах. Не толькі мініяцюры — цэлыя спектаклі, з якіх, акрамя гэтага "займальнага" моманту, нічога нельга было вынесці. А галоўнае, што я не магу апраўдаць: пытанне "Дзеля чаго?" — галоўнае пытанне мастацтва — наогул пакідаецца без адказу.

Боязь падацца лірыкам (гэта не модна ў нашае камп'ютэрнае стагоддзе) ліквідавала ў айчынным мадэрн-балеце каханне як тэму. Але каханне — вечнае. Яно — галоўнае, дзеля чаго жыве чалавек, і каханне — гэта тое, што хвалявала, хвалюе і будзе хваляваць чалавека заўсёды. Адмаўленне ад гэтай тэмы не проста збядняе палітру, гэта апеляцыя да жывёльнай прыроды чалавека. Але чалавек, хоча ён таго ці не, істота духоўная. "Давайце будзем любіць адзін аднаго" — так называўся спектакль французскага харэографа Даніэля Лар'ё, паказаны ў свой час у Мінску. Як бы хацелася зрабіць гэтае выказванне эпіграфам да Віцебскага форуму!

**Пытанне III. Якім шляхам павінен ісці ў XXI стагоддзе айчынны тэатр балета?**

Слухаючы выступленні на фестывалі вядомых крытыкаў, я не мог пазбавіцца адчування, што айчынныя мастацтвазнаўцы адступаюць са сваёй інтэлігентнасцю перад актыўным напорам сваіх замежных калег. Сорамна было "слухаць" ветлівае маўчанне ў адказ на "лекцыю" французскага ўдзельніка секцыі крытыкі пана Філіпа Вер'еля, які распавядаў пра тое, што няма і не можа быць у постсавецкай сучаснай харэаграфіі іншага шляху, чым той, што пракладзены французскімі харэографамі. У іхнім рэчышчы мы павінны ўвайсці ў наступнае стагоддзе. Але, ідучы па гэтай сцяжыне, мы заўсёды будзем другімі, "капіістамі", якія засвоілі чужы стыль, чужую школу. І не больш. Наспеў час узгадаць, што калыскай балета XX стагоддзя былі "Рускія сезоны" Сяргея Дзягілева, якія скаланулі ўвесь свет.

Менавіта ў нашай духоўнасці, у нашых каранях мы павінны знаходзіць моц для кожнага кроку наперад. І нічога новага немагчыма пабудаваць, не абапіраючыся на ўсё лепшае, што было зроблена папярэднікамі. Гэтая аксіёма развіцця мастацтва, відаць, не знаёмая апалагетам таго накірунку харэаграфіі, які я б назваў "заходні мадэрн-балет у айчынным пераказе". Такія мае думкі не сустрэлі асаблівай падтрымкі на фестывалі. Культ заходняга мастацтва паставіў сваю пячатку на тым, што адбывалася на сцэне і ў кулуарах.

Вельмі спадзяюся, што мой голас не застанецца самотным, і вядомыя тэатральныя журналісты і мастацтвазнаўцы ў сваіх артыкулах, прысвечаных гэтай найцікавейшай з'яве — Віцебскаму фестывалю сучаснай харэаграфіі, не застануцца маўклівымі.

**Пытанне IV і апошняе. Наколькі глыбока мае права харэограф зашыфраваць ідэю і сэнс свайго твора?**

Мая разгубленасць пасля большасці з работ, паказаных на фестывалі, рызыкавала ператварыцца ў комплекс непаўнацэннасці: няўжо я занадта павярхоўны для таго, каб спасцігнуць патаемны сэнс гэтых пастановак? Але я вельмі добразычлівы глядач, нягледзячы на ўсё вышэйпамянёнае, і таму ўсімі сродкамі спрабаваў "знайсці ключык" да гэтага "шыфру".

Пазней мне раптам падумалася, што Ідэя — гэта не тое, з чым акцёр бегае па сцэне, а тое, з чым глядач адыходзіць з тэатра. Калі ідэя не трапіла да адрасата, дык яна нічога не вартая.

У спектаклі, які паказаў маскоўскі Кінетычны тэатр "Зумзумзум", пры ўсёй гіперавангарднай форме, ідэю можна "прачытаць". Значыць, гэта зусім не абавязковая рыса сучасных форм пластыкі — рабіць з людзей дурняў, прымушаючы з разумным выглядам вымаўляць: "У гэтым нешта ёсць..." толькі дзеля таго, каб не падацца правінцыйнымі невукамі.

Усе вялікія творы мастацтва былі зразумелымі і блізкімі велізарнай колькасці людзей. І ў гэтым — прычына трывалай сілы іх уздзеяння.

У Віцебску было шмат цікавых работ, нават маленькіх шэдэўраў, але, мяркую, пра гэта пойдзе гаворка і ў беларускім, і ў расійскім друку. Тыя ж праблемы, якія я закрануў, на маю думку, нельга недаацэньваць. Змаўчаць — лягчэй за ўсё, але тады робіцца вельмі вялікай небяспека страціць нашы вечныя культурныя каштоўнасці. І Віцебскі форум паказаў, што гэты працэс, на жаль, ідзе надзвычай хутка.

**Раду ПАКЛІТАРУ,**
**атрыст Нацыянальнага тэатра балета РБ.**




і застаецца беларускай зямлёй...

Увайшоўшая ў прыказку "талерантнасць" беларусаў у Віцебску адзначылася не толькі тым, што ніводны беларускі калектыў не прайшоў нават у другі тур. Не толькі тым, што прадстаўнікі Беларусі, якія бралі ўдзел у працы журы і секцыі крытыкі (Валянцін Елізар'еў і Юлія Чурко), у публічных выказваннях (і, напэўна, у рашэннях сваіх калегій) захоўвалі звышасцярожны, прыніжана-мяккі тон — каб, барані Божа, не выклікаць падазрэнняў у небесстароннасці. Але і тым, што прадстаўнікі іншых краін занялі і даволі агрэсіўна захоўвалі цалкам процілеглыя пазіцыі. Масквічы не саромеючыся і ў адкрытую абаранялі маскоўскія каманды, "лабіравалі" расійскую глыбінку — і гэта зразумела. "Заходнікі" Серж Пейра і Марк Хайм бачылі сваё прызначэнне, вядома ж, у прапагандзе і рэкламе заходніх школ. Француз Філіп Вер'ель і наогул паводзіў сябе беспардонна, не саромеючыся з пагардай навешваць ярлыкі на ўпершыню ўбачанае і заклікаючы танцоўшчыкаў капіраваць, як лепшы спосаб пачатковага вучнёўства, творы французскіх спецыялістаў. Шаноўны рэдактар часопіса "Танцавальныя сезоны", напэўна, забыўся на не такую ўжо даўнюю гісторыю, калі французскі балет уратаваў Серж Ліфар — "цыганя" з Кіева...

Нашыя ж мэтры, якім наогул няма чаго саромецца, якія пражылі ў танцы працяглае жыццё і дасягнулі вельмі паважных вяршынь, калі і браліся выказацца, то ў форме, настолькі завуаляванай і зашыфраванай, што сапраўдны сэнс выказванняў маглі зразумець толькі вельмі дасведчаныя асобы па працяглым роздуме. Напэўна, не ў апошнюю чаргу і гэтая памылковая талерантнасць, цярпімасць да процілеглых пазіцый мела вынікам цалкавітае фіяска на конкурсе фестывалю беларускіх гуртоў. Вядома і шырока аргументавана, што авангард беларускага сучаснага танца — гэта харэаграфія на базе класічнай школы. У Віцебску ж пальцавая тэхніка адназначна ацэньвалася негатыўна. Ніводны твор у такой выканальніцкай манеры не трапіў далей першага тура. Гэта тым больш дзіўна, што "сучасны танец на класічнай школе" паказвалі студэнты кафедры харэаграфіі Акадэміі музыкі, дзе выкладае сам Валянцін Мікалаевіч Елізар'еў, а кіруе кафедрай Юлія Міхайлаўна Чурко. Дарэчы, калі "Канчэрта-гроса ў бірузова-блакітным" Наталлі Фурман сапраўды трохі не ўкладвалася ў канцэпцыю сучаснай харэаграфіі, як яе разумелі некалькі гадоў у Віцебску ("музеем" назваў гэты нумар нехта з журы), то "З'яўленне флейты Пана" Раду Паклітару проста бездакорна ёй адпавядае. Шчыльная вязь рухаў, пачуццёвасць, па-мастацку асэнсаваная ідэя — усё гэта было недаацэнена, на маю думку, па адной прычыне — пальцавай тэхніцы выканаўцаў.










Пастаянныя ўдзельнікі Віцебскага форуму: трупа "ТАД" з Гродзенскай філармоніі і "Галерэя" — "дачэрняе" прадпрыемства таго ж "ТАДа", магчыма, і сапраўды страцілі пазіцыі. Першы — з прычыны захопленасці эксперыментам дзеля эксперымента (некаторыя нумары "ТАДа" хутчэй адпавядалі фестывалю цыркавога мастацтва). Другі — магчыма, ад недахопу фантазіі, губляючы імпульс, што пераняты ад таго ж Зміцера Куракулава, кіраўніка "ТАДа".

Але што больш невытлумачальна — гэта незразумеласць творчасці кіраўніка фальклор-тэатра "Госьціца" Ларысы Сімаковіч, таксама сталага ўдзельніка фестывалю. Тры творы, што прайшлі ў першым туры, не толькі не сведчаць аб "заняпадзе" "Госьціцы", як казалі крытыкі, а наадварот, кажуць аб захаванні своеасаблівасці трупы і смелых пошуках ідэйнай харэаграфіі. Магчыма, сябрам міжнароднага журы сапраўды цяжка было арыентавацца ў тэмах, прапанаваных Ларысай Сімаковіч, — настолькі яны звязаныя з сучасным сацыяльным жыццём беларусаў. Балет "Национальный интерес" (трэба ведаць беларускую патрыётку Сімаковіч, каб ацаніць сарказм назвы, наўмысна рускамоўнай), да якога Ларыса, прафесійны кампазітар і хормайстар, сама стварыла музыку і сама ж запісала вакальную партыю, стаўся тым самым праславутым жэмчугам. Заклікі да стварэння своеасаблівай харэаграфіі, без сляпога капіравання заходніх узораў, што даносіліся цэлы час з боку крытыкі, неяк не вязаліся з заніжанай ацэнкай нашай "Госьціцы"...

### *Шкада, што вас не было з намі*

Шкада, што вас не было з намі, паважаныя спадары, ад якіх залежыць лёс і развіццё сучаснага танца на Беларусі! Уважлівыя і дасведчаныя спецыялісты Міністэрства, выкладчыкі і навукоўцы профільных навучальных установ. Шкада, што сучасны пластычны тэатр у нас нараджае пакуль толькі энтузіястаў — што ладзяць фестывалі, і гледачоў — што натоўпам валяць на спектаклі мадэрновага танца. Шкада, што ніхто з тых, хто прымаюць лёсавызначальныя рашэнні, не задумаўся над прычынамі прывабнасці сучаснага танца, прыняўшы на веру састарэлае сцвярджэнне, быццам ён, гэты танец, не карыстаецца попытам нават там, на Захадзе. А прычыны гэтыя — даволі простыя. І даволі сур'ёзныя. Бо сучасны танец у сваіх лепшых увасабленнях дае падставу для роздуму, нават — прымушае думаць аб тым, што важна і блізка сучаснікам. І таму, у адрозненне ад бязглуздых дыскатэк начных клубаў ды пошласці кардэбалетаў беларускіх мішаў шуфуцінскіх, гэты від пластыкі — мастацтва. У першую чаргу — мастацтва маладзёжнае. Ці патрэбна яно беларускай моладзі, за прыхільнасць і сімпатыі якой цяпер ідзе сапраўднае змаганне?

Наступны фестываль плануецца правесці праз год — з-за фінансавых цяжкасцяў, як прызналася дырэктар Марына Генадзеўна Раманоўская. Калі гэтыя звесткі пранесліся сярод удзельнікаў, сумнае енчанне запаланіла залы. Большасць артыстаў сапраўды жывуць "ад Віцебска да Віцебска", фестываль сёння —па-сапраўднаму адзіны ў сваім кшталце ва Усходняй Еўропе. Прэстыж ягоны расце, на платную акрэдытацыю прыязджаюць спецыялісты з Польшчы, Германіі і Расіі і не шкадуюць аб патрачаных грошах. Нарэшце, сёлета ў фінансаванні прыняло важкі — самы важкі — удзел і роднае Міністэрства культуры. Спадзяюся, гэтая доўгачаканая ўвага працягнецца. Спадзяюся таксама, што нічым не вытлумачальны апроч асабістай любові да танца, энтузіязм Марыны Раманоўскай не вычарпаецца. Бо ў гэтай імпрэзе сёння ёсць сапраўды незаменныя асобы — яна і яе каманда.

**Ігар КЛОКАЎ**
**Фота Ігара ГУСАКОВА і аўтара.**

### *ВЫНІКІ КОНКУРСУ Ў РАМКАХ ДЗЕСЯТАГА МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ СУЧАСНАЙ ХАРЭАГРАФІІ, ВІЦЕБСК, 1997 г.*

Гран-пры — харэаграфічная мініяцюра "А хто я?" на музыку Сэмуэля Барбера, харэограф Гао Чэнмін, выканаўца Лю Джэн, маладзёжная трупа танца Пекінскага харэаграфічнага інстытута, Кітай.

Першая прэмія — не прысуджалася.

Другая прэмія — аднаактовы балет "Мужчына ў чаканні", музыка Аляксандра Пантыкіна і яўрэйская народная, харэограф Таццяна Баганава, тэатр "Правінцыйныя танцы", Екацярынбург, Расія.

Трэцяя прэмія — мініяцюра "Двое", муз. Сцінга, харэограф Валерый Архіпаў, дуэт В.Архіпава маскоўскага тэатра "Сатырыкон", Расія.

Дыплом і спецыяльная прэмія — мініяцюра "Выгнаныя з раю", муз. А.Шнітке, хар. Вольга Пона, Чэлябінскі тэатр сучаснага танца, Расія.

Дыплом і спецыяльная прэмія — аднаактовы балет "Прыцемкі", муз. Філіп Гласс, Тэатр танца "Аура", г.Каунас, Літва.

Спецыяльныя прызы секцыі крытыкі:

"За эксперымент і фантазію" — трупа сучаснай харэаграфіі "ТАД" Гродзенскай філармоніі, кіраўнік Зміцер Куракулаў, Беларусь.

"За творчы рост" — мадэрн-балет "Галерэя", кіраўнік Аляксандр Цебянькоў, г.Гродна, Беларусь.

"За выканальніцкую індывідуальнасць" — Наталля Козел, салістка "Тэатра камернага танца Вольгі Баўдзіловіч", г.Уладзівасток, Расія.

Спецыяльная прэмія "За пошукі і знаходкі ў стварэнні ўласнага стылю" — "Кінэтычны тэатр", кіраўнік — Саша Пепяляеў, г.Масква, Расія.

Спецыяльная прэмія дырэкцыі фестывалю "За індывідуальнасць" — "Монатэатр Таісіі Карабейнікавай", г.Чэлябінск, Расія.

MULTUM IN PARVO



*Злева — направа: Генадзь Буралкін, Аляксандр Сасноўскі і Юрый Лужкоў.*

5 снежня, у рамках візіту Юрыя Лужкова, у Мінску адбылася, у прыватнасці, сустрэча мэра Масквы з прадстаўнікамі творчых саюзаў і дзеячамі культуры нашай дзяржавы.

За "сталом перамоваў" у гарвыканкаме сталіцы прысутнічалі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноўскі, намеснік міністра культуры Юрый Цвяткоў, старшыня Мінскага гарвыканкама Уладзімір Ярмошын, прэзідэнт Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў, народны артыст СССР Мікалай Яроменка, старшыня Беларускага Саюза мастакоў Генадзь Буралкін, іншыя вядомыя дзеячы мастацтва і афіцыйныя асобы.

Аляксандр Сасноўскі расказаў пра культурныя мерапрыемствы, якія былі наладжаны мінчукамі ў Маскве, а масквічамі ў Мінску сёлета. Юрый Лужкоў прапанаваў актывізаваць абмен выставамі, канцэртамі і іншымі імпрэзамі паміж майстрамі мастацтваў сталіц дзвюх дзяржаў-суседак. На сустрэчы было вырашана распрацаваць план супрацоўніцтва, які ўключаў бы, у прыватнасці, правядзенне ў красавіку наступнага года выставы беларускага мастацтва ў Маскве, дзён беларускага і расійскага кіно, усталяванне помніка А.С. Пушкіну ў Мінску і г.д.

**Наш кар.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# КУПАЛА ЯДНАЕ ЎСІХ

Для кожнага чалавека павінен існаваць покліч, які зрушыць сэрца і душу, прымусіць да дзеяння і яднання. Для беларусаў —гэта імя народнага песняра Янкі Купалы. Менавіта яно злучыла ўдзельнікаў Міжнародных купалаўскіх чытанняў, што адбываліся 25 — 26 лістапада ў Гародні. Мерапрыемства было арганізавана і праведзена сумеснымі намаганнямі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы і Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі.

Адкрыў чытанні рэктар Гродзенскага дзяржуніверсітэта прафесар С.Маскевіч. Непарыўную повязь творчасці беларускага генія і нацыянальнай паэзіі асэнсаваў у сваім дакладзе прафесар У.Гніламёдаў, аўтар сучаснага даследавання "Янка Купала: Новы погляд" (1995). Падзяліўся ідэямі, напрацоўкамі і праблемамі выдання Першага поўнага збору твораў Я.Купалы член-карэспандэнт НАН РБ М.Мушынскі. Арыгінальна і прачула, запаланіўшы аўдыторыю, выступілі прафесар М.Мішчанчук (Брэст) і пісьменнік Сакрат Яновіч (Польшча).

Спадчына "песняра нацыі" была прадстаўлена ў розных асэнсаваннях і разрэзах. Літаратуразнаўчы аспект значна ўзмацняўся філасофскай і культуралагічнай падсветкай. Распрацоўкі пытанняў тэксталогіі і перакладу арганічна злучаліся з мовазнаўчымі даследаваннямі. Навейшыя архіўныя знаходкі і краязнаўчыя адкрыцці гучалі арыгінальным дапаўненнем. І, безумоўна, надзвычай важнымі аказаліся метадалагічныя распрацоўкі выкладчыкаў ВНУ і звычайных (лепш — незвычайных) настаўнікаў сярэдніх школ. Такім чынам, не засталося ніводнай сферы культурнага жыцця і ніводнай праявы нацыянальнай свядомасці, якія б не былі прадстаўлены і асэнсаваны.

Тое, што постаць і спадчына Купалы з'яўляюцца агульнымі і непрамінальнымі для ўсіх, засведчыў і надзвычайны акт добрай волі, здзейснены Нацыянальным літаратурным музеем Янкі Купалы: бескарысная перадача Гродзенскаму дзяржуніверсітэту бюста народнага песняра (аўтар Андрэй Бембель).

Трэба адзначыць, што эканамічныя варункі з'явіліся значнай перашкодай для прыезду многіх удзельнікаў. Тым больш важнай уяўляецца спонсарская падтрымка з боку Упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама і многіх прадпрыемстваў горада, а таксама Саюза палякаў Беларусі. Згадзіцеся, гэта сапраўдны сімвал перамогі купалаўскага свята.

Злучыць усе намаганні, творчыя і дабрачынныя, у адно цэлае ўдалося дзякуючы намаганням супрацоўнікаў кафедры беларускай літаратуры ГрДУ на чале з загадчыкам, дацэнтам М.Мікулічам. Гродзенскія чытанні, і ўсе, хто спрычыніліся да гэтага свята, яшчэ раз даказалі жыватворную моц ідэй беларушчыны, якія ўслаўляў і прарочыў сам Янка Купала.

**Анатоль РАМАНЧУК,**
**выкладчык ГрДУ**
*Гродна*

# У НАС У ГАСЦЯХ — УКРАІНСКІ ЛІТАРАТУРНЫ БАМОНД

З 12 па 15 снежня ў Мінску адбудзецца міжнародная канферэнцыя "Беларусь і Украіна: вынікі стагоддзя". Паседжанні будуць праходзіць у актавай зале Беларускага адукацыйна-гуманітарнага цэнтра.

Вельмі цікавымі абяцаюць быць вечарына-сустрэча з самымі яркімі ўкраінскімі літаратарамі (пятніца, 12 снежня, а 19-й гадзіне, Дом літаратара, канферэнц-зала) і сустрэча-дыскусія на філалагічным факультэце (панядзелак, 15 снежня, у 12.45). У Мінск прыедуць Юрый Андруховіч (паэт, празаік, стваральнік гурта "Бу-Ба-Бу", аўтар раманаў "Маскавіяда. Раман жахаў" і "Перверзіі", ягоныя творы перакладзены на восем моваў), Аксана Забужко (аўтар бестселера 1996 года "Палявыя даследаванні ўкраінскага сексу"), філосаф, рэдактар часопіса "Ї" Тарас Возняк, Уладзімір Цыбунько (аўтар "Анты-Гогаля" і "Анёлаў і тэкстаў"), Іздрык (аўтар "Воцэка", вядомы беларускі чытачам па эсэ "Станіслаў. Туга па несапраўдным", што друкавалася ў "Культуры", Наталка Білацэрківец (таксама аўтар "Культуры"), Мікола Рабчук, Джэймс Мэйс, Раман Кісь і шматлікія іншыя ўкраінскія інтэлектуалы.

**Андрэй ДЫНЬКО**

# ПЕРАДАЦЬ ДЗЕЦЯМ ДУХОЎНАСЦЬ...

Апошнія гады сярэдняя агульнаадукацыйная школа мастацтваў Маладзечна ператварылася ў своеасаблівую выставачную залу горада. Тут пастаянна адбываюцца вернісажы, дзе выстаўляюцца работы вучняў, а таксама вядомых майстроў пэндзля. Сёння тут зноў творчае свята — адкрылася выстава твораў настаўнікаў-мастакоў.

Адкрываецца экспазіцыя творамі Міколы Аўчыннікава, вядомага не толькі ў горадзе, а і ў рэспубліцы, загадчыка кафедры выяўленчага мастацтва школы. Работы Аўчыннікава прадстаўляліся на шматлікіх выставах бліжняга і далёкага замежжа. З новай серыі "Узаемапранікненне" мастак прадставіў карціны абстрактнага накірунку: "Залатая клетка", "Невад", "Залатая структура". Ён піша свае карціны як бы "па гарызанталі і ў глыбіню". Ад гэтага з'яўляецца пачуццё мнагамернасці, у якую хочацца ўвайсці, рассунуць, як межы, словам. Аўтар перадае стан душы чалавека праз свой новы накірунак жывапісу.

Работы Святланы Сарокі "Ноч", "Мінулае" вабяць прыгажосцю вобразаў. У іх колер, як і гук у музыцы, выказвае пачуцці, прымушае гледача думаць, бо разлічаны на асацыяцыі.

Яшчэ адзін мастак, Рыгор Мяжуеў, прадставіў серыю акварэляў рэалістычнага накірунку — гэта родныя краявіды Беларусі: "Кушляны", "Вязынка", "Залессе". Стрыманыя па колеры, яны вельмі гарманічныя і кампазіцыйна прадуманыя.

Партрэты вучняў, з якімі працуе, карціны "Танец дажджу" і "Лэдзі восень" прадставіла на суд гледачу маладая мастачка Кацярына Дубяга.

З серыяй мініцяюр краявідаў "Зачараванне" выступае Наталля Аўчыннікава. Бачна, што мастачка захапляецца навакольным светам, усім тым, што блізкае яе душы. Гэты ж свет і дорыць гледачу.

Цудоўна ўпісваецца ў экспазіцыю серыя "Краявіды" Марыны Руткевіч. А мастачка Святлана Самайлюк паказала серыю ілюстрацый да вершаў маладога паэта К.Хлопава ў даволі арыгінальнай форме.

Пры ўсёй разнастайнасці тэхнікі і манер выставу яднае духоўнасць. Таму экспазіцыя ўспрымаецца свежай і цэласнай. Лічу, што гэта садружнасць індывідуальнасцяў — прыклад для дзяцей з мастацкіх класаў. Гэта своеасаблівы творчы працяг: усе сем мастакоў працуюць з дзецьмі, і гэта іх яднае. Нездарма ж за стварэнне высокакультурнага выхаваўчага і навучальнага асяроддзя, што стымулюе развіццё творчасці дзіцяці, САШМ была прызнана лепшай у вобласці і ў краіне.

У бліжэйшых планах — выстава самадзейных мастакоў. Значыць, быць новаму святу знаёмства з прыгожым.

**Аксана ЖУРАЎЛЁВА,**
**вучаніца 11 А класа**
**САШМ г.Маладзечна**

# УЛАДЗІМІР СПІВАКОЎ І ВІРТУОЗЫ МАГІЛЁВА

"Я адчуваю сябе слугою ў храме Мастацтва" — гэтыя словы належаць сусветнавядомаму музыканту Уладзіміру Співакову, якія ён сказаў пасля праслухоўвання юных талентаў у час вясновага наведвання Магілёва "Віртуозамі Масквы". Менавіта тады былі вызначаны стыпендыяты Фонду, які існуе ўжо 10 гадоў і складаецца з ганарараў ад канцэртаў па краінах СНД і амаль цалкам ідзе на падтрымку таленавітай моладзі.

Вясновы настрой лунаў на нетрадыцыйнай імпрэзе, якая адбылася ў рамках "Беларускай музычнай восені" — уручэнне стыпендый і канцэрт юных дараванняў. Другі раз атрымалі стыпенды Арцём Шышкоў, выхаванец ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі, і Павел Кундзянок, навучэнец Магілёўскага ліцэя музыкі і харэаграфіі.



*Выступаюць сёстры Алеся і Даша Маісеевы.*

Дарэчы, пры дапамозе Фонду леташнія стыпендыяты здолелі набыць якасныя прафесійныя інструменты — скрыпку і габой, што, безумоўна, паспрыяла паспяховаму ўдзелу Паўла ў сусветнай прэм'еры славутай п'есы Сяргея Пракоф'ева "Пеця і Воўк". Так, менавіта прэм'еры, бо ў Вене і Маскве ансамбль выканаўцаў складаўся з юных стыпендыятаў міжнароднага Фонду Уладзіміра Співакова. З блаславення майстра Арцём Шышкоў стаў лаўрэатам фестывалю ў Германіі і бліскуча гастраляваў па Швецыі і Фінляндыі.

Пад апеку Співакова трапілі зусім юныя Даша і Саша Майсеевы (віяланчэль і фартэпіяна) — навучэнцы 5-й дзіцячай музычнай школы Магілёва, і габаістка Алена Буранкова — студэнтка Магілёўскай музычнай вучэльні. Яны атрымалі заахвочвальныя стыпенды.

Асноўную ж стыпендыю знакаміты маэстра вылучыў для студэнткі Беларускай акадэміі музыкі Ганны Шыбаевай — цудоўнай піяністкі, якая з поспехам удзельнічала ў конкурсах у Галандыі, Італіі, Германіі, Паўночнай Карэі і літаральна зачаравала сваім майстэрствам славутага музыканта.

Так, "сусветны пасол" музыкі Уладзімір Співакоў нездарма адчувае сябе служыцелем юных віртуозаў-музыкантаў.

**Алена БАРЫСАВА,**
**супрацоўніца Магілёўскай абласной філармоніі**
**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

# "ВЯРТАННЕ Ў СПРАДВЕЧНУЮ ПРАСТОРУ",

***Як ужо паведамляла наша газета, у Мінску адбыўся фестываль, прысвечаны творчасці Яна Давіда Голанда. Музычныя вечарыны, на якіх гучалі творы нясвіжскага капельмайстра, адбыліся ў зале Рэспубліканскага каледжа пры Акадэміі музыкі, у камернай зале касцёла св. Роха, што на Залатой Горцы, у Нацыянальным мастацкім музеі. Да нас у рэдакцыю для гутаркі завітала навуковы кіраўнік фестывалю, вядомая музыказнаўца Вольга ДАДЗІЁМАВА:***

— Не ведаю, наўмысна гэта ці выпадкова, але наша гаворка адбываецца літаральна за гадзіну да пачатку канферэнцыі "Ян Голанд і мастацкая культура яго часу". Гэта канферэнцыя ладзіцца ў межах VII фестывалю Адраджэння Беларускай капэлы. Папярэднія фестывалі былі вельмі розныя па канцэпцыях, па творчых планах, па спосабах іх рэалізацыі, па праграмах. А вось гэты — сёмы, фактычна першы манаграфічны. Ён прысвечаны творчасці асобы і чалавека, які з'яўляецца не толькі высокапрафесійным кампазітарам, але ў пэўным сэнсе сімвалам музычнай культуры XVIII стагоддзя.

**— Як і калі ўзнікла ідэя гэтага фестывалю?**

— Яна ўзнікла тады, калі я прывезла з розных краін свету рукапісы і старадрукі твораў Яна Голанда, яны раскіданы па архівах і бібліятэках Кракава, Варшавы, Вільні, Санкт-Пецярбурга, Бруселя, Франкфурта-на-Майне, Берліна. І вось так сталася, калі гэты камплект надзвычай каштоўных нот быў сабраны, дык немагчыма было не выкарыстаць такі цудоўны матэрыял і не зрабіць гэты фестываль.

І вось нарэшце адбылося распаўсюджанне і рэалізацыя ідэі пра адвечную еднасць культуры Беларусі, якая месціцца ў цэнтры Еўропы, з культурай агульнаеўрапейскай, таму што Голанд — асоба, якая лучыць не толькі розныя эпохі, але і розныя краіны. Ён пачынаў сваю кар'еру ў Гамбургу пад кіраўніцтвам і з вялікім творчым удзелам Філіпа Эмануіла Баха, які высока цаніў яго музыку, выконваў яе ў сваіх знакамітых канцэртах. Дарэчы, на той час Ян Голанд займаў пасаду дырэктара Гамбургскай кафедры.

**— Як жа так сталася, што Голанд, прыехаўшы ў 1782 годзе на Беларусь, у Нясвіж, застаўся тут на вельмі доўгі час?**

— А гэта цалкам натуральны шлях заходнееўрапейскага кампазітара ва Усходнюю Еўропу. Рэч у тым, што на той час было вельмі прэстыжна працаваць на Беларусі пры дварах тутэйшых магнатаў. У тым жа Нясвіжы ў адзін час з Голандам працаваў такі вядомы і па сёння чэшскі піяніст і кампазітар Ян Аладзіслаў Дусік, у Беларусі працаваў першы настаўнік Шапэна — Войцэх Жыўны, сюды прыязджалі працаваць знакамітыя тэнары Джаакіна Альберціні, Джузэпе Канстанціні і шмат сусветна вядомых кампазітараў і выканаўцаў. Відаць, іх прыцягвала сюды не толькі магчымасць зарабляць грошы, але і тая атмасфера, што панавала ў гэтых "маленькіх Версалях".

І я хачу ўзгадаць тых асоб, якія засталіся па-за ўдзячнасцю фестывалю, а гэта якраз тыя людзі, без якіх ён быў бы немагчымы. Найперш — гэта мой навуковы кіраўнік Іна Назіна, якая яшчэ гадоў 15 таму раіла мне заняцца менавіта гэтай тэмай і накіроўвала мяне па гэтым навуковым шляху. Фестываль абавязаны сваім поспехам і Аліне Новак-Рамановіч. Менавіта яна шчодра падзялілася са мной як даследчыца. Гаворка пра тое, што ў 1988 годзе ў Кракаве я адшукала рукапіс партытуры оперы "Агатка" і ў аркушы выкарыстання ўбачыла гэта прозвішча. І я паехала да яе ў Катавіцы, мне захацелася пагаварыць з чалавекам, які ўжо бачыў гэты рукапіс.

**— Відаць, дапускалася такая магчымасць, што яна распачала работу над ім?**

— Аказалася, што Аліна Новак-Рамановіч ужо апрацавала рукапіс і падрыхтавала да выдання партытуру, і яна падзялілася са мной сваёй апрацоўкай, сказаўшы: "Я не хачу, каб вы праходзілі той цяжкі шлях, апрацоўваючы рукапіс, але вы павінны паабяцаць мне, што, вярнуўшыся на Беларусь, падрыхтуеце оперу да выканання, запішаце для радыё, а пасля — выдасце клавір.

**— І вы выканалі гэтыя ўмовы?**

— Так, мы сапраўды ўжо амаль падрыхтавалі да выдання клавір.

**— З гэтага вынікае, што даследчык-музыказнаўца заўсёды разумее другога даследчыка незалежна ад таго, у якой краіне жыве.**

— Канечне, мы гады са тры яшчэ не мелі б "Агаткі" — пакуль бы разбіраліся з гэтым старым манускрыптам, які так невыразна напісаны. Ён жа быў у вельмі кепскім стане, і фотаздымкі, якія я зрабіла з яго, часткова былі непрыдатныя для работы. І вось зараз я радуюся магчымасці падзячыць гэтага чалавека — Аліну Новак-Рамановіч. На жаль, яе ўжо няма на свеце, але светлая памяць аб ёй да гэтага часу застаецца для мяне стымулам, я адчуваю абавязак перад ёй, працягваю яе справу. Тым больш, што партытура, падрыхтаваная ёю да выдання ў Польшчы, так і не выйшла. І наш клавір, які мы ў хуткім часе выдадзім, — своеасаблівы помнік не толькі нашай культуры, але і помнік дас-

# ПРАКТЫКАВАННІ ПРОФІ Ў ЛЯЛЕЧНЫМ...

Творчая майстэрня тэатраў лялек была створана год таму па ініцыятыве Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь для падтрымкі эксперыментальных пастановак беларускіх лялечнікаў і папулярызацыі гэтага віду тэатра. Гэтую ініцыятыву лялечнікі ахвотна падтрымалі, і з тае пары штомесяц на працягу сезона на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек РБ адбываецца паказ іх лепшых работ. На працягу лістапада 1996 — траўня 1997 г. мінская публіка і сталічная крытыка ўбачыла "Чырвоны Каптурык" паводле казкі Ш.Перо, якая ў інтэрпрэтацыі Магілёўскага тэатра лялекператварылася ў захапляльны музычны дэтэктыў, містычнага "Прыхадня" М.Эйроля ў пастаноўцы Гродзенскага тэатра лялек, сцэнічную версію казкі В.Гаўфа "Карлік Нос" Гомельскага тэатра лялек, спектакль Маладзечанскага тэатра лялек "Батлейка" "Дзікія лебедзі" Х.-К.Андэрсена, казку "Бусляня і пудзіла" ў выкананні Брэсцкага тэатра лялек. У рамках творчай майстэрні адбыліся паказы прэм'ерных спектакляў Дзяржаўнага тэатра лялек РБ "Гісторыя Снежнай каралевы, расказаная ёю самой" па матывах казкі Андэрсена і "Гэта ты... Моцарт?!" І.Мацкевіч.

Многія з гэтых спектакляў потым прадстаўлялі нашу краіну на міжнародных і рэгіянальных фестывалях — "Разанскія агледзіны", брэсцкай "Белай Вежы-97" і іншых.

Такія майстэрні, якія з'яўляюцца адначасова лабараторыямі і прафесійнымі клубамі "па інтарэсах", дзе могуць сустракацца, абмяркоўваць вынікі сваёй працы, планаваць новыя праекты прадстаўнікі ўсіх тэатральных прафесій: акцёры, прадзюсеры, — асабліва неабходныя, на маю думку, менавіта цяпер, калі тэатр развіваецца хутка і разнастайна. У спектаклях беларускіх лялечнікаў ідзе актыўны пошук новых выразных сродкаў, засвойваюцца новыя прыёмы суседніх відаў тэатральнага мастацтва: драмы, балета, оперы, пантамімы, тэатра масак. Іншы раз справа даходзіць да таго, што нават спецыялістам бывае цяжка вызначыць тыповую прыналежнасць таго альбо іншага спектакля, такія разнастайныя формы акцёрскай ігры, рэжысёрскія сродкі, стылістыка сцэнаграфіі. Аднак цяжкасці тэатразнаўцаў часцей за ўсё блякнуць перад яскравасцю тэатральнага відовішча, а дыскусіі пра чысцiню жанраў сціхаюць перад абаяннем выканаўцаў. Галоўным арбітрам у тэатральных спрэчках заўсёды быў і застаецца глядацкі поспех, а па колькасці глядачоў тэатры лялек упэўнена лідзіруюць сярод іншых тэатраў краіны.

Пра кошт гэтага поспеху, пра пошукі і эксперыменты беларускіх лялечнікаў, пра складанасці ўзаемастасункаў чалавека са сваім двайнікомлялькай, пра падрыхтоўку кадраў для гэтага віду тэатра, — пра ўсё гэтае і шмат пра што яшчэ ішла гаворка падчас "круглага стала" на тэму "Беларускі тэатр лялек: сучасны стан і перспектывы развіцця", што быў прымеркаваны да пачатку дзейнасці творчай майстэрні. Сустрэча была наладжана Міністэрствам культуры РБ сумесна з Беларускім саюзам літаратурна-мастацкай крытыкі і адбылася ў памяшканні Дзяржаўнага тэатра лялек.

У "круглым стале" ўзялі ўдзел супрацоўнікі аддзела тэатраў Міністэрства культуры, дырэктары і мастацкія кіраўнікі тэатраў, рэжысёры, мастакі, тэатразнаўцы, журналісты. Безумоўна, праблем хапае і ўсе яны падчас гутарак і дыскусій вырашаны быць не могуць. Можна толькі іх правільна сфармуляваць і вызначыць прыярытэты, зверыць, так бы мовіць, творчыя гадзіннікі. Аказалася, што ў лялечнікаў яны ідуць даволі шпарка, і часу засталося роўна столькі, каб увайсці ў глядзельную залу, дзе ўжо пачынаўся спектакль Магілёўскага тэатра лялек "Сонечны праменьчык" Э.Папеску (рэжысёр А.Жугжда) — першы спектакль майстэрні ў новым сезоне.

**Галіна АЛІСЕЙЧЫК**



*Дон Бартала — В.Чарнабаеў, Дон Базіліо — Я.Пятроў.*

# ВАНДРОЎНЫ ЦЫРУЛЬНІК

У лістападзе ў Нацыянальнай оперы прайшоў на першы погляд звычайны рэпертуарны спектакль. Адзінай асаблівасцю сталася мова — опера выконвалася парыску. І гэтага аказалася дастаткова, каб адбылося "вяртанне" твора гледачам...

Так, менавіта, вяртанне на сцэну тэатра оперы ў пастаноўцы рэжысёра Маргарыты Ізворскай-Елізар'евай спектакля "Севільскі цырульнік" Дж.Расіні, дзякуючы намаганням групы салістаў і мужчынскага хору на чале з дырыжорам тэатра — заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі Львом Палікарпавічам Ляхам.

Упершыню, пасля некалькіх сезонаў, падчас якіх гэты вядомы спектакль ішоў на італьянскай мове, ён зноў загучаў пабеларуску. Не сакрэт, што "заходняя скіраванасць" у рэпертуары тэатра пазбавіла многіх гледачоў радасці поўнага ўсведамлення таго, што адбываецца на сцэне тэатра.

І вось — цуд адбыўся. З першых хвілін гучання оперы ў зале ўсталявалася поўнае паразуменне паміж гледачамі і выканаўцамі. Цяжка было ўсвядоміць, хто атрымоўвае большае задавальненне ад гэтага, бо па абодва бакі рампы апынуліся аднадумцы, якія жылі асалодаю сюжэта і музыкі і літаральна купаліся ў гэтым разуменні. Яркі і непаўторны вострa-камічны дуэт Бартала і Базіліо ў выкананні народных артыстаў РБ Віктара Чарнабаева і Яраслава Пятрова, прадэманстраваўшых поўнае ўсведамленне характараў сваіх герояў. Хітраваты і непаўторны ў сваёй пластыцы Фігара — у выкананні заслужанага артыста РБ Віктара Скарабагатава; гарэзлівая і іскрыстая Разіна — заслужаная артыстка РБ Наталля Руднева; Рыгор Палішчук — у ролі графа Альмавіва зырка прадставіў сваё новае прачытанне гэтай вакальна найскладанай партыі. Вельмі пераканаўча і ярка выглядалі выканаўцы эпізадычных партый: Людміла Крывёнак, Міхаіл Качаноўскі і Іван Ланюк.

Трэба было бачыць, з якой непасрэднасцю гледачы назіралі за ўсім, што адбывалася на сцэне. Нават артысты аркестра, якія не адзін дзесятак разоў адпрацавалі гэты спектакль, часам цішком цікавалі, каб сваімі вачыма ўбачыць тую шчырасць, што адбывалася там, хаця і сам аркестр заслугоўвае асобнай адзнакі.

Вынікам усяго была авацыя.

**Міхась ЛЯДАЎ**

# МАРЫ НА ПАПЕРЫ

У Галерэі сучаснага мастацтва "Шостая лінія" з 14 снежня па 7 студзеня будзе праходзіць выстава твораў польскай мастачкі Гражыны Гурскай. Мастачка ўпершыню прадстаўляе каля трыццаці графічных карцін у Мінску. Сёлета ўлетку яна брала ўдзел у Міжнародным пленэры мастакоў імя Марка Шагала ў Віцебску.

12 снежня адбудзецца адкрыццё выставы і прэс-канферэнцыя.

**Святлана ШЧАПОЎСКІХ**

# ЦІ ДАПАМОЖА ТЭЛЕЭКРАН?

Не, Мінск — горад не правінцыйны! Нават адносна Венецыі, дзе музычныя фэсты праводзяцца некалькі разоў на год, і зацікаўлена ў іх акурат усё насельніцтва, бо даўно ўжо вядома — італьянцы самая музычная ў свеце нацыя. Аднак жа ў адрозненне ад насельнікаў Італіі, якія могуць "прыпасці" на ўвесь вечар да тэлевізара, каб прасачыць чарговую музычную імпрэзу, калі не ўвачавідкі, то хаця б з дапамогай блакітнага экрана, насельніцтва абшараў беларускіх такой магчымасці не мае. Далёка не на ўсіх музычных імпрэзах апошняга міжнароднага фэсту "Беларуская музычная восень", што скончыўся 6 снежня канцэртам з удзелам знакамітага арганіста і кампазітара Алега Янчанкі, прысутнічалі "аглядальнікі" нашага тэлебачання.

І ўсё ж Мінск — горад не правінцыйны! Юбілейны сезон Дзяржаўнай філармоніі працягваецца, і мінчукоў у хуткім часе чакаюць сустрэчы са славутымі Марыяй Гулегінай, Аленай Абразцовай...

...Застаецца маленькая надзея, мауляў, калі і не патрапіш на канцэрт, дык усё ж такі пашанцуе ўбачыць яго з тэлеэкрана?

**Алена РЫГОРАВА**

# АД СВЯТОЙ ЗЯМЛІ — ДА ЎСІХ НАРОДАЎ

У Мінску на факультэце тэалогіі імя святых Кірылы і Мяфодзія Еўрапейскага Гуманітарнага універсітэта адбылася фотадакументальная выстава, прысвечаная першым стагоддзям хрысціянства. Выстава была прымеркавана да блізкага святкавання 2000-годдзя хрысціянства. У актавай зале факультэта тэалогіі дэманстраваліся фотаздымкі шматлікіх экспанатаў археалагічнай выставы, што была арганізавана летась у Італіі. Гэта вучэбна-азнаямляльная версія, на якой экспанаваліся фотаздымкі апошніх археалагічных знаходак, што датуюцца першымі стагоддзямі нашай эры, а таксама некалькі дзесяткаў унікальных экспанатаў, якія знаходзяцца ў буйных навуковых установах і музеях усяго свету. Сярод іх Іерусалімскае кіраванне старажытнасцяў, Брытанскі музей, Папская святаархеалагічная камісія, Ватыканскія і Капіталійскія музеі Рыма.

Увазе наведнікаў упершыню былі прапанаваны фотакопіі самых старажытных фрагментаў чатырох Евангеляў, фотаздымкі прадметаў, знойдзеных у грабніцы першасвяшчэнніка Каіфы, надпісаў, у якіх згадваецца Понцій Пілат — адзінае пацвярджанне гістарычнасці гэтай асобы, скарбаў ранніх хрысціян — залатыя і срэбныя рэчы і прадметы побыту.

Выстава складалася з чатырох раздзелаў: Палесціна ў часы Хрыста; місіянерскія падарожжы апостала Паўла; сусветны характар царквы ў II і III стагоддзях; жыццё першых хрысціян.

"Хрысціяне не адрозніваюцца ад іншых людзей ні краінаю, ні моваю, ні адзеннем. Яны не насяляюць нейкія асобныя гарады, не ўжываюць якую-небудзь незвычайную гаворку і не вядуць жыццё, адрознае ад іншых. Іх вучэнне не ёсць плод думкі ці вынаходніцтва людзей, якія шукаюць навізны, яны не схіляюцца да якога-небудзь вучэння чалавечага, як іншыя. Але, жывучы ў элінскіх і варварскіх гарадах, дзе каму выпала, і прымаючы звычаі тых жыхароў у адзенні, ежы і ва ўсім іншым, яны ўяўляюць незвычайны і неверагодны вобраз жыцця. Жывуць у сваёй айчыне, але як прышлыя, прымаюць ва ўсім удзел як грамадзяне і церпяць як чужакраінцы. Для іх усякая чужая краіна ёсць айчына і ўсякая айчына — чужая краіна. Знаходзяцца на зямлі, але як жыхары нябесныя. Падпарадкуюцца ўсталяваным законам, але сваім жыццём пераўзыходзяць гэтыя законы. Адным словам, хрысціяне жывуць у міры так, як душа жыве ў целе".

Гэты ўрывак з ліста, які датуецца II стагоддзем пасля Р.Х., — ключ да выставы. Невядомы хрысціянін, адрасуючы сваё пасланне язычніку, дае ў найвышэйшай ступені актуальнае вызначэнне таго, што значыць быць хрысціянінам у нехрысціянскім свеце.

**М.Б.**

# АЛЬБО ЯН ГОЛАНД У МІНСКУ



*Вольга Дадзіёмава.*

ледчыцкаму энтузіязму і супрацоўніцтву даследчыкаў розных краін. Дарэчы, ён выдаецца не толькі намаганнямі Беларускай акадэміі музыкі і Беларускай капэлы, нам шмат дапамагаюць у гэтай справе Міністэрства культуры і выдавецтва "Поліфакт".

**— Выданне партытуры станецца сапраўднай падзеяй у нашым музычным жыцці.**

— Як і тое, што творы Яна Голанда "агучаны" і ўвайшлі ў наш навуковы і мастацкі ўжытак. Гэта прыкмета часу, што нясе зусім новае асэнсаванне і мінулага, і нашай сучаснасці. Гэта мая думка невыпадковая: увесь апошні год я працую не толькі над самім "тэкстам" нашай культуры, але і над праблемамі яе кантэкстуальнага характару. Відаць, надышоў той час, калі мы сталі больш ведаць пра нашу культуру, асабліва пра культуру XVIII стагоддзя, якраз цяпер наспела пара ўводзіць культуру ў тую спрадвечную прастору, дзе яна калісьці існавала.

**— А калі нашых чытачоў асабліва зацікавяць гэтыя пытанні?**

— Я адрасую іх да маіх публікацый у часопісе "Беларусь" у нумары 2 — 3 і 6 за 1997 год, прысвечаных якраз гэтай тэме, а таксама да тэзісаў навуковай канферэнцыі "Узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне нацыянальных музычных культур народаў Беларусі".

**— І ўсё ж, раскажыце, калі ласка, падрабязна пра сваю працу апошняга года.**

— Мае распрацоўкі, звязаныя з агульнаеўрапейскім фонам, на якім развівалася і наша культура, выводзяць на вельмі цікавыя высновы і адкрываюць далягляды новых пошукаў. Рэч у тым, што сам факт існавання такіх сувязяў мае некалькі аспектаў. Папершае, гэта персаніфікаваныя сувязі, калі нашы кампазітары ездзяць за мяжу і калі да нас прыязджаюць замежныя маэстра. І гэты бок заўсёды існаваў і існуе. Але не толькі такім чынам рэалізуецца повязь паміж культурамі. Ёсць яшчэ вельмі істотны аспект — стылёвы і агульнакультурны. Факт распаўсюджання пэўных стылёвых з'яў на вялікі рэгіён, дарэчы, вельмі адэкватна, маляўніча і дакладна адлюстроўваецца менавіта ў творчасці Голанда. Калі мы чуем яго музыку, прыходзіць разуменне (а яно праз душу прыходзіць імгненна), што Беларусь — еўрапейская краіна. Калі тут стваралі музыку ў еўрапейскім стылі, калі гэтую музыку тут шанавалі і песцілі, і магнаты лічылі прэстыжным для сябе ставіць оперы, напісаныя менавіта ў заходнееўрапейскім стылі, то гэта невыпадкова. Дарэчы, гэтая тэндэнцыя распаўсюджвалася не толькі на Беларусь, але і на Расію.

**— Вернемся да твораў Голанда, да яго "Агаткі". Ці азначае напісанне гэтай оперы нямецкім па сваім паходжанні кампазітарам, што ён, жывучы ў Нясвіжы, змог узбагаціць сябе беларускімі рэаліямі, увабраць і прапусціць праз сябе мясцовы фальклор, каб стварыць беларускую оперу па сваім змесце?**

— Увогуле, у "Агатцы" ўсё пабудавана на лакальных рэаліях. Але вось тут пачынаюцца складанасці. Калі мы пачнем асобна разглядаць музыку "Агаткі", дык амаль не заўважым лакальных рэалій. У музыцы няма тых "беларусізмаў", якія можна заўважыць у лібрэта "Агаткі". Дарэчы, гэтыя назіранні зрабіў перакладчык Уладзімір Мархель. У музыцы ёсць некалькі нават не цытат, а "славянізмаў", — я вызначыла б так. Але опера — гэта ўсё ж цэласны мастацкі феномен, і ў дадзеным выпадку ён, безумоўна, нясе ў сабе лакальныя рэаліі...

**З музыказнаўцай гутарыла Алена РЫГОРАВА**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

МАСТЫХІН

# "ЛЮБЛЮ НЕПАЎТОРНУЮ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ МЕТАФАР..."



Зміцер Ільінчык.

***Мастацкая апрацоўка дрэва — найбольш традыцыйны і распаўсюджаны від народнага мастацтва на Беларусі. Паводле папулярнасці яго можна паставіць у адзін шэраг толькі з ткацтвам, але паводле дыяпазону вырабаў яму няма роўных.***

***Прадметы побыту і посуд, лялькі і шкатулкі, вазы і дробная пластыка, "лясная" скульптура і жыллё — усё гэта здаўна рабілі з таннага, лёгкага ў апрацоўцы, шырокадаступнага матэрыялу, якога заўсёды на Беларусі было зашмат.***

***Аднак гэты від традыцыйнага мастацтва ў сістэме мастацкіх рамёстваў краіны займае пакуль вельмі сціплае месца. Ці не таму ўзнікаюць шматлікія праблемы і нацыянальных традыцый дрэваапрацоўкі, і сувязі з сучасным рынкам, і спалучэння функцыянальнасці, практычнасці вырабу з ягоным дэкорам, эстэтычнай выразнасцю, пластычнасцю, цэласнасцю вобраза.***

***Зміцер Ільінчык — адзін з цікавых прадстаўнікоў гэтай галіны мастацкай творчасці, сябра Саюза майстроў народнага мастацтва, вырабы якога карыстаюцца папулярнасцю ў многіх краінах свету.***

***Ягоныя творы, зазвычай, вырабляюцца ў адзіным экземпляры і не маюць аналагаў. Яны дэманстраваліся ў галерэях і прыватных калекцыях краін Еўропы, ЗША і Канады, знаходзяцца ў пастаяннай экспазіцыі музея ў Амстэрдаме.***

***Кола ягоных вырабаў разнастайнае: падсвечнікі, разны посуд, шкатулкі, вазы, дробная пластыка, "лясная" кампазіцыйная скульптура, пано для інтэр'ераў і да т.п.***

***Наш карэспандэнт сустрэўся са Зміцерам Ільінчыкам і папрасіў адказаць на шэраг пытанняў.***



З.Ільінчык. "Вогнішча маіх надзей". Дрэва.

**— Зміцер, мы з табой пазнаёміліся 15 гадоў таму. Ты тады працаваў ва Упраўленні ўнутраных спраў горада Мінска і, наколькі я памятаю, творчасцю не займаўся...**

— Правільна. Я тады працаваў на пасадзе інспектара. Да гэтага скончыў юрыдычны факультэт БДУ. А ў 1985 годзе я цалкам змяніў свой лёс. Пакінуўшы праваахоўныя органы, я пачаў цікавіцца дрэваапрацоўкай. Пачынаў у кааператыве па афармленні розных інтэр'ераў. Дасюль захаваліся мае творы ў Смалявіцкім ЗАГСе (разное пано арачнага тыпу), у некаторых крамах Мінска...

**— Як пачыналася для цябе засваенне новай мастацкай прасторы?**

— Вывучаў спецыяльныя кнігі і альбомы, наведваў выставы, вывучаў тэорыю і практыку кудрынскай разьбы, праразной скані, фактуру і розныя віды дрэва, класічную італьянскую сецэсію, паглыбляўся ў таямніцы цудоўнага беларускага арнаменту... Да таго ж я быў добра знаёмы з прафесійнымі мастакамі і тэарэтыкамі, якія сваёй маральнай падтрымкай дапамаглі мне паверыць у свае сілы і падняцца на ногі...

**— Хто яны, гэтыя мастакі?**

— Коля Байрачны, Валянцін Прыешкін, Коля Несцярэўскі, Жора Скрыпнічэнка, Саша Шатэрнік, Яўген Сахута, нябожчык Саша Сурмач...

**— Добрая кампанія. Я бачыў шмат якія з тваіх твораў. У лепшых з іх — шчырасць, непасрэднасць і эмацыйнасць вобразаў, гэта значыць, тое, што найбольш характэрна для беларускай разьбы па дрэве. Мабыць, ты не адразу прыйшоў да гэтага?**

— Безумоўна, не. Мастацтву арнаментальнай разьбы я вучыўся, па сутнасці, самастойна. Спачатку гэта былі немудрагелістыя ўзоры з геаметрычнага арнаменту; я ствараў блюды з выкарыстаннем кудрынскай разьбы і праразной скані, рэзаў скарбонкі-шкатулкі з карэльскай бярозы з выкарыстаннем агатавых пласцін альбо абсідыяну — армянскага чорнага мінералу. Паступова творы рабіліся ўсё больш складанымі, больш дасканалымі. Потым я зразумеў: не варта занадта "гвалтаваць" дрэва разцом, яно само па сабе чароўнае, а трэба ўмець прыгожа спалучаць тэкстуру драўніны з пластычнасцю ліній, форм, арнаментам і да т.п.

**— Так, твае вырабы з карэння, карчоў, ствалоў і галін — "Палёт", "Карал", "Імкненне" — з гэтага шэрагу...**

— Але нешта ў тэхналогіі вынайшаў сам...

**— Што гэта значыць?**

— Шляхам працяглай і складанай тэрмічнай апрацоўкі дрэва я знайшоў у ім надзвычай прыгожы залацісты колер. У прыватнасці, у бярозы. Акрамя гэтага, выкарыстоўваю спалучэнне мудрагелістай, напаўаб'ёмнай разьбы з уральскімі камянямі альбо з бурштынам. Кажуць, прыгожа... Наогул, я прад'яўляю высокія патрабаванні да якасці аздаблення.

**— Разьба па дрэве калісьці ўзнікла як рамяство. Але зрабілася мастацтвам...**

— Так, я люблю надаваць дрэву не толькі, так бы мовіць, мэтазгоднасць і практычнасць, але перадусім, хараство, адухоўленасць, паэзію. Люблю непаўторную разнастайнасць метафар, калі разьба ператвараецца ці то ў далікатныя карункі, ці то робіцца буйным рэльефам, ствараючы складаную гульню святла і ценю, ці то няўрымслівай птушкай альбо дэльфінам...

**— Карацей, ад сваёй працы ты атрымліваеш задавальненне нягледзячы на тое, што гэта вельмі нялёгкая справа. Але гэта і спосаб зарабіць, ці не так?**

— Так. Я ж жыву толькі творчасцю. І радуюся, калі людзі набываюць мае творы альбо замаўляюць штонебудзь спецыяльна...

**— І колькі ў цябе твораў?**

— Цяжка сказаць. Больш за 200. Многія творы знаходзяцца за мяжой. Але лепшыя, на маю думку, пакуль у мяне. Хачу зрабіць сваю персанальную выставу: мне ж у студзені будзе 50! Вось толькі цяжкавата з памяшканнем. Магчыма, Саюз мастакоў дапаможа? Дарэчы, у наступным годзе Нацыянальная асацыяцыя разьбяроў па дрэве ЗША запрашае мяне ўзяць удзел у яе выставе... Але хацелася б зрабіць выставу і на радзіме.

**— А адкуль ты родам?**

— З Брэстчыны. Нарадзіўся ў вёсцы Кашалёва Бярэзінскага раёна ў сям'і вясковых настаўнікаў.

**— Ну што ж, Зміцер, дзякуй за гутарку і — творчых поспехаў табе. Чакаем тваёй выставы.**

# ЗНАЙСЦІ СЯБЕ...



Мікола Таранда.

За чвэрць стагоддзя творчай дзейнасці гэтым мастаком створаныя дзесяткі работ у розных відах і жанрах выяўленчага мастацтва: пейзажны жывапіс, партрэт, нацюрморт, малюнак і гуаш, лінагравюра і афорт, круглая і рэльефная скульптура, комплекснае афармленне інтэр'ераў.

Мікалай Таранда, ураджэнец далёкай беларускай вёсачкі Вялікае Падлессе, што на Брэстчыне, прайшоў доўгі, складаны шлях, але ў выніку здолеў знайсці сябе не толькі як асоба, але і знайсці ў мастацтве — асабліва ў пейзажным жывапісе і графіцы — свой свет вобразаў і сваю тэму. Нябёсы, зямля і людзі — вось тры запаветныя ключы да глыбіннага спасціжэння ягонай творчасці.

І пра гэта выстава, прысвечаная ягонаму 50-гадоваму юбілею, якая адкрылася 9 снежня ў рэспубліканскім Палацы мастацтва. На вернісажы адбылася і прэзентацыя багата ілюстраванага альбома пра жыццё і творчасць адоранага аршанскага мастака.



М.Таранда. "Восень". Афорт.

# "СІМЕТРЫЯ ТВОРЫЦЬ ПАДЗЕЮ..."



Генадзь і Антаніна Фалеі.

Так пазначана на віцебскіх афішах выстава таленавітых мастакоў Генадзя і Антаніны Фалеяў. Для іхняй творчасці характэрная еднасць такіх антаганістычных пачуццяў, як рацыянальнае і эмацыйнае, вечнае і імгненнае, зямное і ўзнёслае, белае і чорнае... І ўсё гэта цудоўна пераплялося ў габеленах Генадзя Фалея і "эксперыментальным тэкстылі" Антаніны Фалей.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**
*Віцебск*

# КАНЦЭРТ УЛАДЗІМІРА ТОЎСЦІКА ДЛЯ МЕЦЦА-САПРАНА

Нечаканыя перакрыжаванні падзей, цудоўныя метамарфозы, асаблівая прастора, азораная святлом дабрыні і настальгіі па прыгажосці, ператварэнне часу праз індывідуальныя пластычныя вобразы і стылістыку — такі жывапіс Уладзіміра Тоўсціка, што экспанаваўся ў галерэі "Мастацтва".



У.Тоўсцік. "Хмуры ранак". Пал., алей.

У ім, жывапісе, — прымат фантазіі, волі, стварэння. Прымат культу розуму і культу пачуццяў. Сцвярджэнне магутнасці творцы, здольнага паўстаць супраць застарэлых, "статычных" традыцый і звыклых аўтарытэтаў, і нават паспрабаваць разбурыць "кансерватыўныя" формы прыроды.

Гармонія каларыту і вобраза-метафары. Дакладней, не так. Колер у У.Тоўсціка — гэта і ёсць вобраз. Вобраз, у якім падвышаная асаблівая здольнасць заўважаць у жыцці, у мастацтве толькі тое, што спалучаецца з асновамі асабістага светаразумення.



У.Тоўсцік. "Настрой чакання". Пал., алей.

У гэтым — увесь Тоўсцік. У гэтым — соль ягонай творчасці, сакрэт "мяккай", але звышканцэнтраванай экспрэсіі ягоных палотнаў. І, адначасова, пошукі сваёй пластычнай сістэмы не абмяжоўваюцца "пракруставым ложкам", але даюць мастаку магчымасць вольна карыстацца матэрыялам. Таму кожны твор майстра мы можам разглядаць як частку, што ўваходзіць у адзіную, непадзельную карціну свету, створаную ім; як мадыфікацыю самага галоўнага, самага асабістага — стаўлення да рэчаіснасці...

Аўтар "Мастыхіна" Барыс КРЭПАК

# З ЧАГО БУДУЮЦЦА ФОРМЫ?

Леў Талбузін — вядомы дызайнер і артдызайнер, мастак-мадэльер, таксама працуе ў галіне малой пластыкі і інсталяцыі. Ён вядомы як аўтар дэкаратыўнага аздаблення станцыі метро "Плошча Якуба Коласа", мастацкай акцыі "Чарнобыльскі шлях — 1986", цыкла памятных медалёў, прысвечаных выдатным дзеячам культуры Беларусі.

На выставе ў галерэі "Мастацтва" ён паказаў арыгінальныя геаметрычныя фігуры — пластычныя формы-субстанцыі на вельмі складаныя філасофскія тэмы быцця чалавека ў сучасным свеце, сярод якіх — "Метамарфозы", "З чаго будуюцца формы", "Сон", "Сусвет", "Страчаны час", "Супрацьстаянне" і інш.



Л.Талбузін. "Метамарфозы". Парцэляна.

# A PRIORI АЛЬБО A POSTERIORI?



І.Тапілін. "Размова". Пал., алей.

Вядомы кінамастак Ігар Тапілін, які паставіў на "Беларусьфільме" больш за 30 мастацкіх стужак, свой 50-гадовы юбілей вырашыў адзначыць выставай у Палацы мастацтва. Аднак ні эскізаў, ні экспплікацый і раскадровак да кінафільмаў у экспазіцыі мы не бачым.

І.Тапілін выставіў толькі станковы жывапіс, сваю даўнюю любоў, якая займае ў ягоным жыцці месца не менш істотнае за працу ў якасці мастака-пастаноўшчыка. Нярэдка адразу бачна, што ў карціне "вынайдзенае", а што — "падгледжанае". У Тапіліна мяжа паміж выдумкай і назіраннем няпэўная. Цяжка сказаць, прыдумвае ён канфігурацыі рытмаў, прыводзячы іх у адпаведнасць з абагульненай думкай, што ўзнікае, a priori — ад ідэалу, ад пажаданага, альбо a posteriori — ад вопыту працы ў кіно альбо проста назірання.

Магчыма, прырода ў якасці ўзнагароды за трапнасць позірку зрабіла мастаку падарунак — "арганізаваную" плоскасць і глыбіню, "гатовыя" спалучэнні рытмаў і колеравыя тэмы з варыяцыямі? А можа, гэта ўплыў інтуітыўнай кампазіцыйнасці шматчасткавых палотнаў і спроба ўбачыць гармонію і дысгармонію хаосу сённяшняга свету?

Гэта — таямніца аўтара. А каб яе хоць трошкі прыадкрыць, трэба паглядзець выставу.

# ВЫТОКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЭСТАМПА

У 1952 годзе ў Маскве, у Акадэміі мастацтваў, праходзіла Усесаюзная мастацкая выстава. На ёй экспанаваліся і некалькі маіх твораў, якія знаходзіліся ў раздзеле, прысвечаным мастацтву Літоўскай ССР.

Аднойчы я звярнуў увагу на двух мужчын, якія ажыўлена гутарылі, уважліва разглядаючы мае гравюры "Вызваленне" і "Адбудова Вільнюса". Мне было цікава, і я падышоў бліжэй і прадставіўся. Адным з маіх новых знаёмых аказаўся Рыгор Якаўлевіч Кісялёў, тагачасны міністр культуры Беларусі. Я распавёў яму, што родам з Навагрудка, але скончыў Акадэмію мастацтваў у Вільнюсе і цяпер выкладаю там графіку. Кісялёў зазначыў, што на Беларусі, можна сказаць, не існуе мастацтва графікі і таму ў тэатральным інстытуце ў Мінску на наступны год мяркуецца адкрыць мастацкі факультэт з аддзяленнямі жывапісу, графікі і скульптуры. Ён таксама прапанаваў мне выкладаць графіку на новым аддзяленні.

Калі праз год я прыйшоў на прыём да міністра культуры, дык пытанне, звязанае з арганізацыяй майстэрні эстампа пры тэатральна-мастацкім інстытуце, вырашылася даволі хутка. Памятаю, наколькі добразычлівым было стаўленне да гэтай справы ўсіх зацікаўленых асобаў: і самога міністра культуры, і дырэктара інстытута Іосіфа Прыса, і супрацоўнікаў аддзела культуры ЦК КПБ і КДБ, дзе трэба было аформіць дакументы на друкарскае абсталяванне. Мне давялося доўга шукаць неабходныя друкарскія машыны. Нарэшце, я знайшоў іх у адной з друкарняў. Мы прыстасавалі іх да сваіх патрэбаў, перарабілі, дарабілі дэталі, якіх неставала, і ў памяшканні Опернага тэатра, дзе тады месціўся інстытут, пачала дзейнічаць майстэрня эстампа. І першыя студэнты графічнага аддзялення (цяпер гэта вядомыя ў краіне мастакі) паспяхова засвойвалі новы для іх від графічнага мастацтва — эстамп.

Пачынаючы з 60-х гадоў графічнае мастацтва на Беларусі пачало мацнець, пра нас часцяком узгадвалася на старонках перыядычнага друку, творы мастакоў-графікаў з'яўляліся на ўсесаюзных і замежных выставах. Карацей, графіка заняла сваё пачэснае месца сярод іншых відаў выяўленчага мастацтва. Пазней такая самая майстэрня была арганізавана і пры мастацкім камбінаце. Але, безумоўна, галоўная роля ў развіцці графікі належыць тэатральна-мастацкаму інстытуту.



"Аксакалы" беларускай графікі (злева направа): М.Гуціеў, А.Волкаў, Я.Тарас, Я.Ціхановіч, І.Давідовіч, Л.Ран. 1951. Фота з архіва Я.Ціхановіча.

Студэнты-графікі займаліся тут жа, ля друкарскіх станкоў, а заняткі па жывапісе і малюнку праходзілі ў будынку на праспекце Скарыны, ля кафэ "Вясна". Гэта былі дзве мансарды, адна з якіх належала мастаку Волкаву, а другая — Цвірко. Праз некалькі гадоў студэнтаў стала болей, і нам давялося арандаваць яшчэ адзін невялікі пакой у Палацы культуры прафсаюзаў. Такім чынам, студэнты павінны былі штодня наведваць заняткі ў розных кутках горада: пластычная анатомія — у медінстытуце, жывапіс і малюнак — на праспекце Скарыны, тэарэтычныя прадметы — у Опернам тэатры. Не трэба забывацца і на тое, што горад ляжаў тады ў руінах, і пасляваеннае будаўніцтва Мінска яшчэ толькі набірала тэмпы. Праз пяць гадоў нам далі два паверхі ў доме па вуліцы Даўгабродскай (цяпер — вуліца Змітрака Бядулі), але заняткі па графіцы па-ранейшаму праводзіліся ў Опернам тэатры. Яшчэ праз колькі гадоў мы атрымалі будынак фінансавага тэхнікума, дзе і цяпер месціцца Беларуская акадэмія мастацтваў. Дырэктарам акадэміі стаў Віталь Канстанцінавіч Цвірко.

Паступова новая навучальная ўстанова павялічвалася, адкрываліся новыя факультэты, з'яўляліся новыя таленавітыя выкладчыкі, многія з якіх цяпер шырока вядомыя ў нашай краіне і за яе межамі. Я ж памятаю іх маладымі студэнтамі-першакурснікамі.

Калі іншы раз заходжу ў Акадэмію мастацтваў і бачу тыя друкарскія станкі, з якіх усё пачыналася, дык у душы ўзнікае адчуванне чагосьці вельмі роднага і блізкага... Я часта наведваю мастацкія выставы, на якіх апошнім часам з'явілася шмат цудоўных, высокатэхнічных эстампаў. А мне ўзгадваюцца імёны выдатных майстроў-друкароў Мікалая Цюцікава, Дзмітрыя Малаткова, Вячаслава Ісакава, якія дапамагалі беларускім студэнтам-графікам ствараць першыя беларускія эстампы.

**Сямён ГЕРУС,**
**мастак.**

З дарожнага нататніка

# ТУТ СОНЦА БАЧЫЦЦА РАНЕЙ...

...Ягоная магіла бачная здаля. Яна пад стромкай, як ялінка, каплічкай, што ўздымаецца над наваколлем. Узгорак, дзе месціцца магілка, адзінока стаіць у полі, вёска Падневічы як бы "адышла" ад іх, пасунулася ў іншы бок. Але і тады, у снежні 1884 года, калі хавалі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, двараніна Мінскага павета і класіка літаратуры, якую ён і фармаваў праз гады і гады, — родная яго Люцынка была далекавата, за сем вёрстаў.

Выпадковасць гэта ці не — і на вечны спакой лёг ён на ўзвышша, і маёнтак у Люцынцы стаяў таксама на такім жа, амаль казачна прыгожым месцы, адкуль здаля бачыцца наваколле і сонца, што ўздымаецца з-за небакраю? Ураджэнец Бабруйшчыны, больш за сорак гадоў пражыў ён тут, у Люцынцы Валожынскага раёна, і яшчэ пасля вайны, кажуць, стаяў дом, дзе жыла сям'я Дуніна-Марцінкевіча, які горда называўся маёнткам, хаця быў, як для двараніна і класіка, занадта сціплым.

...Ад яго застаўся затравелы падмурак, амаль яшчэ цэлы ганак, па якому мы асцярожна спускаемся да агромністага пня ліпы, пасаджанай пісьменнікам. Мы — гэта прафесар і галоўны рэдактар часопіса "Тэатральная творчасць" Анатоль Сабалеўскі, тэатразнаўцы Яраслаў Громаў і Лідзія Манукова, старшы навуковы супрацоўнік музея тэатральнага мастацтва Арсен Лабовіч, а таксама арганізатар гэтай паездкі, галоўны спецыяліст аддзела тэатра Міністэрства культуры Ларыса Куксянкова. 190-годдзе з дня нараджэння В.Дуніна-Марцінкевіча мы прыехалі адзначыць найперш сюды, у мясціны, звязаныя з яго творчасцю і грамадскай дзейнасцю. "Гэты вялікі сын свайго народа найперш дарагі нам тым, што заклаў асновы нацыянальнага тэатра", — сказаў у час ускладання кветак ля магілы Анатоль Сабалеўскі.

...Мабыць, сама асоба вялікага чалавека настолькі шматгранная, што кожны знаходзіць нешта сваё. Апроч школьнай праграмы і


Карл Станкевіч.

"Пінскай шляхты" пра В.Дуніна-Марцінкевіча расказаў у сваёй кнізе "Сейбіты вечнага" вялікі руплівец беларускага літаратуразнаўства Генадзь Кісялёў. Памятаю, з якім захапленнем я, тады яшчэ малады і нявопытны рэдактар Гродзенскай студыі тэлебачання, чытала тую кнігу — пра паўстанне 1863 года, пра сям'ю пісьменніка, асабліва ж пра дачку Дуніна-Марцінкевіча Камілу. Тады ж я вырашыла зрабіць пра яе тэлевізійную перадачу.

У Віленскім дзяржаўным гістарычным архіве мне лёгка і без усялякіх перашкод уручылі вялікую, у поўстала, папку, заведзеную на дачку Дуніна-Марцінкевіча. Там былі ўсялякія даносы тагачасных стукачоў, данясенні жандараў, вынікі падглядаў. Але ўразілі мяне найперш лісты-пасланні самой Камілы, калі яна сядзела ў Мінскай турме ў той жа час, што і чалавек, якога яна кахала, — дваранін Карл Станкевіч. Яму яна пісала на насоўках, на маленькіх, таропка абрэзаных паперках, мабыць, спадзеючыся, што наглядчык, якому ж, відаць, плаціла, перадасць ейныя словы самому каханаму. Аднак жа той насіў гэтыя словы кахання ў канцылярыю, і там, перакладзеныя на рускую мову нейкім унтэр-афіцэрам, яны і засталіся, застылі пад казёнными пячаткамі турэмнай канцылярыі. Мы з фотакарэспандэнтам Янушам Габінскім зрабілі колькі здымкаў для тэлеперадачы, яна адбылася... Папка ж з тэкстам, які я, вядома, не захавала, была здадзеная ў архіў. У мяне засталіся толькі тры здымкі-копіі, якія ў тэлеперадачы не былі выкарыстаныя, ды натхненне, з якім я напісала верш "Равесніцы, у светлых залях блішчыце", што быў зроблены як маналог Камілы.

Едучы ў Люцынку, я доўга шукала тыя здымкі ў сваім архіве і, нарэшце, знайшла. Мы знялі пачатак ліста, які на бланку Міністэрства ўнутраных спраў Мінскага грамадзянскага губернатара 26 жніўня 1863 года пісаў мінскі следчы "Пану Віленскаму Ваеннаму Губернатару і Генерал-Губернатару Гродзенскаму, Ковенскаму і Мінскаму": "У выкананне прапановы Вашага Высокапрэвасхадзіцельства ад 24 сяго жніўня за № 2615 маю гонар данесці, што дваранка Мінскага павета Каміла Марцінкевіч разам з сім высланая ў суправаджэнні двух жандараў". У перапісцы следчых ёсць і такая характарыстыка бацькі і дачкі: "...Я прызнаваў неабходным выселіць яе з месца жыхарства, разам з яе бацькам які да ўсіх парокаў, уласцівых ягонай дачцы, валодае даволі бойкім пяром і езуіцкім настроем, якім па-майстэрску ўздзейнічае на народ, распушчаючы між імі свае шкодныя сачыненні, якімі з'яўляюцца "Гутарка" і яшчэ новая брашура, пры гэтым прыкладаемая, якая, па агульнай думцы, яму належыць".

Зараз, успамінаючы тую вялікую папку, я з жалем думаю пра тое, што гэтак мала ўзяла з яе. Але ж камандзіроўку ўдалося "выбіць" усяго на два дні, дый думалася, што можна, калі спатрэбіцца, паехаць яшчэ і яшчэ... Хацелася тады з'ездзіць і ў Люцынку, але таксама не дазволіў час і абставіны. Ды і, сказаць па шчырасці, не надта ахвотна дазвалялі пісаць пра двараніна і дваранскую дачку Дуніных-Марцінкевічаў. Тады і шляхціча Івана Луцэвіча, маладога Купалу, у спектаклі "Калыска чатырох чараўніц" паказвалі ў саматканай кашулі, адкуль тырчалі голыя локці... За апошнія некалькі гадоў я была ля магілы Дуніна-Марцінкевіча, але ў Люцынцы бываць не давялося. І вось цяпер, на гэтай сядзібе, дзе летась праходзіла вялікае свята паэзіі, мы ўсе гаварылі аб тым, што хаця і позна, але прыходзіць час сапраўднага шанавання і ацэнкі таго, што зрабіў для свайго народа гэты "езуіцкі настроены, з бойкім пяром" чалавек.

"Чаго мы толькі не прапагандавалі за сваё жыццё! — гаварылі нам дзве Алены — Барахоўская, загадчыца Валожынскай дзіцячай бібліятэкі, і Родзевіч, загадчыца раённай бібліятэкі. — Пяцігодкі, "Малую зямлю" і "Цаліну", БАМ... А цяпер можам, нарэшце, гаварыць пра тых нашых папярэднікаў, хто працаваў на свой народ, на яго адукацыю і культуру".

Якраз на гэтай сустрэчы і выказаў агульны настрой раённых руплівцаў культуры намеснік старшыні Валожынскга райвыканкама Анатоль Мікалаевіч Кулак: "У раёне нямала робіцца для ўвекавечання памяці нашых землякоў, сярод якіх — Канстанцыя Буйла, Пятро Бітэль і да якіх мы адносім таксама Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, які тут жыў і працаваў, і знайшоў вечны спакой. Вось чаму ў нас даўно з'явілася задума аднавіць будынак у Люцынцы, зрабіць былую сядзібу музеем, сабраць тут усё, што магчыма, пра час і пра асобу слаўнага сына беларускага народа".


Намеснік старшыні Валожынскага райвыканкама А.Кулак ускладае кветкі да помніка.

У памяці сённяшніх жыхароў Люцынкі яшчэ захаваліся перададзеныя дзядамі і прадзедамі аповеды пра сям'ю "бунтоўнага памешчыка", які пісаў на "народнай мове". Шмат цікавага з тых своеасаблівых паданняў узгадваў нам кіраўнік народнага тэатра з в.Пяршай Мікалай Мікалаевіч Ганчарык, які яшчэ памятае хату Марцінкевічаў, прададзеную пасля вайны лясгасам "некаму" ў Мінск".

А сапраўды, ці не час гэтай добрай ідэі "аваладаць масамі"? Люцынка, як Ракуцёўшчына, як Акопы і Вязынка, ужо робіцца месцам паломніцтва ўсіх, каму дарагое беларускае слова, а спадчына В.Дуніна-Марцінкевіча раскрываецца перад намі, яго сённяшнімі чытачамі і прыхільнікамі, усё больш выразна і, калі так можна сказаць, велічна. Не сыходзяць са сцэн тэатраў яго п'есы, вывучаюцца ягоныя вершы і празаічныя творы. І ўсё больш блізкім і дарагім робіцца ў многіх жыццёвых і духоўных калізіях пакутнае, а ў Часе і Вечнасці — шчаслівае жыццё інтэлігента, што стараўся выказаць думкі і пачуцці народа.

Спіленая альбо зваленая ліпа, пасаджаная ім каля сядзібы, кажуць, улетку ўжо дала парастачак. Можа, гэта і ёсць той добры знак новага адраджэння?

І праз дзесяць гадоў у свята двухсотгоддзя мы ўвойдзем у аднаўлёную сядзібу-музей, адкуль, як і калісьці, будзе бачна далёка-далёка і трохі раней за іншых, хто жывуць унізе, у даліне, як узыходзіць сонца...

**Фота аўтара.**

# АД БАТЛЕЙКІ ДА ПАЛАЦА

Культработнікі ў мястэчках і вёсках часта скардзяцца, што самая галоўная іх праблема — сабраць людзей на якую вечарыну. Бывае, рыхтуюць сцэнар, самадзейнасць, а гледачоў збярэцца — кот наплакаў. Амаль у кожнага ў хаце тэлевізар: дзеі, якія паказваюць там, больш унушальныя і цікавыя.

Але прычына ўсеагульнага адчужэння, на мой погляд, не толькі ў мас-культуры, якую нясе тэлевізар. Гэтае савецкае васьмідзесяцігоддзе імкліва разбурала ў народных пластах тое, што савецкі вучоны М.Бахцін назваў карнавальнай, "смехавой культурай". А тое, што навязвалася ўзамен, не было глыбока-родным, не мела трывалых каранёў.

Але ці была яна, смехавая культура, на Беларусі? Мы прывыклі гаварыць аб карнавальных традыцыях паўднёвых народаў. І па сённяня карнавал у Бразіліі, напрыклад, — гэта адна з важнейшых дзяржаўных дзеяў. Дзе ўжо нам да гэтай, сапраўднай усеагульнай, радасна-трапятлівай традыцыі!

...Аб усім гэтым думалася на раўніне паміж Ярэмічамі і Налібоцкай пушчай Карэліцкага раёна, дзе мы, група навукоўцаў і пісьменнікаў, пабывалі нядаўна (аб чым пісалася ў папярэдніх нумарах). Але там не толькі ішлі страшэнныя баі ў гады Айчыннай вайны. Многім жыхарам вёсак помніцца, як да вайны тут, на гацях, якіх і зараз засталося нямала, выступалі цыганы — Мір жа стагоддзямі, асабліва ў часы Вялікага княства, лічыўся цыганскай сталіцай, і апошні цыганскі кароль, які памёр у 1790 г., нават пакінуў сваё імя і прозвішча (зазначым, яно было чамусьці беларускім — Марцінкевіч). Яшчэ Уладзіслаў Сыракомля ўзгадваў, што "цыганскі кароль... выяджаў са двара ў суправаджэнні атрада маладых коннікаў, аматараў зазірнуць у чужыя стайні".

На "цыганскія прадстаўленні" людзі глядзелі з задавальненнем, хаця і моцна цярпелі ад "артыстаў". У мясцовым касцёле св.Мікалая часта маліліся аб вяртанні скрадзеных коней — падчас славутых мірскіх "конскіх кірмашоў", што праходзілі 9 мая і 6 снежня, бывала ўсялякае. У некаторых крыніцах гаворыцца, што вялікім поспехам карысталіся і выступленні мясцовых народных груп. Традыцыі "батлейкі" былі тут вельмі моцнымі. І не дзіва — былі святы, была і патрэба ва ўвесяленнях. Яшчэ ў першыя пасляваенныя гады хадзілі па вёсках пад Вяліндзень валачобнікі, спявалі песні. Але пасля зніклі — як "шкодны элемент".

Нядаўна ў вучылішчы будаўнікоў, якое месціцца таксама побач з замкам, нам паказвалі батлеечны спектакль, аднавіўшы тым самым даўнія мясцовыя традыцыі. Праўда, мы глядзелі не класічнага "Цара Ірада", а прыдуманую самімі вучнямі і настаўнікамі "Радзівіліяду". Паказвалі яе Галіна Пятроўна Жаровіна — кіраўнік батлеечнага тэатра, архітэктар, а таксама майстар Іван Карп, выкладчыца гісторыі мастацтваў Элеанора Ляхновіч і Міхал Шапяленка. Дасціпныя рэплікі, прыгожыя, прафесійна зробленыя касцюмы і дэкарацыі, таленавітае выкананне пакінулі вельмі добрае ўражанне. Дарэчы, разьбяная аздоба "тэатральнай скрыні" — дыпломная работа Івана Карпа, былога вучня.

Галіна Пятроўна — з тых, каго называюць не проста энтузіястамі, а "апантанымі сваёй справай". Яна ўзнаўляе гісторыю мірскай батлейкі па апытаннях тых, хто памятае нешта — прозвішчы, тэмы, герояў народных спектакляў. Захавалася памяць пра Мацея Барашку, які нават ездзіў са сваёй батлейкай на ВДНГ у Маскву. Яшчэ да вайны хадзілі са сваім "джаз-бандам" браты Сілкі. Яны паказвалі спектакль і адначасова гралі на розных інструментах.


Косаўскі палац.

Ці адносіцца тая батлейка, якая аднаўленая ў Мірскім вучылішчы будаўнікоў, да народнай культуры? Мабыць, не. Народная культура жыве ў натуральным асяроддзі, жывіцца з яго і ў матэрыяльным, і ў духоўным сэнсе. Але ж і адмаўлянне у існаванні і ў праве на нашае прызнанне гэткай вось разнавіднасці народнага тэатра таксама было б няправільна. Батлейка ёсць у Міры — і гэта цудоўна. Цудоўна тое, што кола тэмаў тут самае разнастайнае, ад уласна батлеечных — да палацавых. Задуменная Уршуля Радзівіл — не зусім звыклы персанаж, але ён жыве на сцэне, і жыве арганічна, уваходзячы тым самым у гістарычную спадчыну і ва ўспрыняцце яе народам. Гадоў дзесяць таму дарэмным было б пытацца ў мірскага школьніка, хто такія Радзівілы і што яны далі гэтаму краю. Сёння пра Уршулю Радзівіл, пра ейны тэатр, прозу Мікалая Сіроткі альбо нават прыхамаці Пане Каханку ўжо могуць апавядаць многія.

Дзякуючы апошнім гадам паступова, марудна, але ўсё ж пачынаюць вяртацца цвёрдыя контуры размытых было да шэрага мроіва стагоддзяў.

Жыхары Косава, якія пакаленне за пакаленнем прыходзілі адпачываць да руінаў палаца Пуслоўскіх, месціліся каля магутных вежаў, што ўсё болей разбураліся, у большасці сваёй не ведалі, а хто такія Пуслоўскія і ўвогуле чый гэта палац. Лічылі нават, што гэта палац Касцюшкі.

Разбураная сядзіба Касцюшкі, што знаходзіцца ў сотні метраў ад палаца, адзначана тым самым камянём з прыцэментаванаю плітою, які быў пастаўлены даўным-даўно і на якім напісана па-руску, што тут нарадзіўся Т.Касцюшка, "видный политический деятель Польши". Едучы сюды, на Марачоўшчыну, у верасні гэтага года ў складзе навукова-творчай экспедыцыі "Шлях да святыняў", мы ўсе неяк спадзяваліся, што пасля навуковай канферэнцыі ў Косаве, якая адбылася летась у лютым і ў якой прынялі ўдзел многія ўплывовыя людзі (у тым ліку старшыня Беларускага фонду культуры У.Гілеп, намеснік старшыні аблвыканкама У.Гетманчук і намеснік старшыні райвыканкама У.Макараў і іншыя), тут будзе хаця б іншы, больш адпаведны сённяшняй рачаіснасці знак. Аднак не — для тых наведнікаў, якія прыязджалі сюды ўсё лета і, думаецца, прыедуць яшчэ, Касцюшка ўсё заставаўся чужым для Беларусі, хаця быў ён народжаны тут, у сапраўды надзвычай прыгожым месцы, ён, чые продкі былі, як пішуць некаторыя даследчыкі Польшчы, праваслаўнымі, а значыць, не палякамі. Але нам, мабыць, не варта дзяліць на часткі вялікіх людзей — яны цалкам могуць належаць усім тым народам, каму аддавалі свой талент і жыццё. Аднак жа сорамна нам увогуле аддаляцца ад чалавека, каго шануюць Польшча і Амерыка, Францыя і Аўстралія...

Як ні парадаксальна, але палац Пуслоўскіх (дакладней, яго руіны) сталі ўсё ж часткай народнай культуры, хаця і не такой, на якую, мабыць, спадзяваліся ягоныя гаспадары. Нам расказалі тут, на Марачоўшчыне, што, калі некаторыя бізнесмены захацелі ўзяць пад сваю апеку гэты палац і прывесці яго ў больш прыстойны выгляд, гэтаму засупраціўляліся: за доўгія гады надта прывыклі праводзіць тут розныя маёўкі, дажынкі і нават чыста рэвалюцыйныя святы, накшталт дня нараджэння Уладзіміра Ільіча... Маўляў, бізнесмены агародзяць палац; куды тады прыязджаць сем'ямі альбо сябрынамі? Аднак пра Пуслоўскіх расказваюць, тым самым далучаючыся да палацавай культуры, якую адмаўлялі так доўга. Вось так і ідзе наша Адраджэнне — ад батлейкі да палацавых сцэнаў. Руіны пачынаюць нешта расказваць пра сябе. Гэта добра. Дрэнна, што гаворыць менавіта руіны. Але, можа, некалі яны загавораць так магутна, што ў самай ляпотнай галаве ці душы нешта абудзіцца. І гэта "нешта", што завецца гістарычнай памяццю, створыць цуды.

Славяне, як ніхто, дасюль вераць у цуды. А што ім яшчэ застаецца?!

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

Аўтар матэрыялаў паласы Вольга ІПАТАВА.

# "ЗВЫЧАЙ-НАЯ" ГІСТОРЫЯ

Іх "узлі" ўначы...

Гісторыя простая, як і кожная драма. (Складаней можа быць толькі камедыя.) Да тых падзей, пра якія пойдзе гаворка, яны жылі проста, як жывуць многія постсавецкія дзяўчаты на іхняй радзіме. Потым яны проста прыехалі ў Германію. І выкінуць іх адсюль проста, а яны проста не паедуць і будуць жыць як бясправныя "нелегалкі", проста працуючы ў барах, аказваючы мужчынам, якія туды зазірнулі, "дадатковыя паслугі". А бары гэтыя — усім вядомыя "пуфы", гэта значыць, падпольныя, "аднаразовыя" бардакі. І яны будуць тут працаваць, робячы сваю простую працу, зарабляючы свае нелегальныя грошы.

Іхняе "творчае" жыццё, як і ў спартсменаў, нядоўгае. Магчыма, яны і наогул знікнуць без вестак, як і многія "каляжанкі". Лёс прадстаўніц першай найстаражытнай прафесіі ўжо тысячу гадоў просты да празрыстасці. У тых, хто працуе "законна" — з "атэлье", "студыямі", "масажнымі кабінетамі" альбо дамком-спальняй па прыёме "гасцей", падаткамі, урачом, прафсаюзам і адпачынкам, — у іх застаецца шанц застацца жывымі і нават пабудаваць сваё ўласнае жыццё (астатняе залежыць ад таго, ці здолеюць яны дамовіцца з сваім сумленнем), але ў большасці з "нелегалак" перспектывы няма, нават калі ім пашчасціць застацца ў жывых.

Не шмат хто з іх здолее вярнуцца дадому і знайсці сваё жаночае шчасце. Але і тыя, нямногія, мне здаецца, будуць часта прачынацца ў сваім сямейным ложку, адчуваючы халодны пот на ілбе: забітае сумленне ніколі не памірае. Уратуй нас, Божа, ад жахлівага "кіно", што па начах наведвае былых прастытутак. (Пра гэта мне распавядала адна былая суайчынніца ў жаночым аддзяленні брэменскай турмы...)

Іх "узлі" ўначы. Ні імён, прозвішчаў, ні месца здарэння, ні дадатковых падрабязнасцяў я не маю права называць, — я паабяцаў, — таму што суда не было і, я ўпэўнены, не будзе. Ды мяне і не цікавілі гэтыя "дэталі", а неабыякавым для мяне было тое, што я прысутнічаў на той сустрэчы ў пастарунку, і тое, што адна з трох дзяўчат была беларускай, мінчанкай (я сорак гадоў пражыў у Мінску...), а дзве астатнія — украінкі з Харкава (маленства і юнацтва мае — Украіна...).

Дамовімся называць іх наступным чынам: Бялявая (беларуска), Брунетка і Шатэнка (украінкі). Грымаса выпадку: прадстаўленыя ўсе натуральныя колеры прыроды. (А магчыма, яны — фарбаваныя?) Узрост: 22 — 24 гады. (Самы час мець хаця б адно дзіця...) Усе — асабліва беларуска — могуць узяць удзел у конкурсе прыгажосці ў кожнай з васемнаццаці нямецкіх земляў і не застацца без прызавога месца. Адбывалася гэта ў прысутнасці аўтара гэтых радкоў недалёка ад Брэмена.

Такім чынам, паўтаруся зноў, іх узлі ўначы, падчас невялікай мэтанакіраванай "аперацыі" ў невялікім бары, безумоўна, з санкцыі пракурора. Нашых чароўных суайчынніц "узлі" ў пакоі на другім паверсе, дзе яны былі агаленымі, а мужчына, рускі (цалкам магчыма, што і "новы"), вымушаны быў у прысутнасці паліцыі зашпільваць штаны... Маўклівая сцэна? Зусім не! Мужчыну адпусцілі, бо дакументы ў яго былі ў парадку: ніякага правапарушэння ён не здзейсніў, а штаны паводле мясцовых законаў кожны можа зашпільваць дзе заўгодна, нават і ў прысутнасці паліцыі.

Дзяўчат, у якіх не было аніякіх "папер", прывезлі ў паліцыю, пачакаўшы спачатку, пакуль яны апрануцца, нафарбуюцца і зробяць фрызуры. Шатэнка адмовілася адказваць на пытанні без адваката, але з той прычыны, што яна ў Германіі — "ніхто" і адваката можа наняць толькі за ўласныя грошы, дык яна і сядзела ўвесь час моўчкі. Брунетка часткова ўдзельнічала ў размове. А Бялявая ахвотна і падрабязна распавядала іхнюю агульную для ўсіх "простую гісторыю": індывідуальных гісторый яны яшчэ не паспелі набыць, бо знаходзяцца на тэрыторыі Германіі толькі два дні.

Можна меркаваць, што ў паліцыі быў "свой" чалавек у бары, які і паведаміў паліцыянтам пра тое, што на нелегальны сексуальны рынак прыбыў новы "тавар" у колькасці трох адзінак. З цяжкасцю можна ўявіць і наступнае: тры новыя адзінкі тавару і не ведалі пра тое, што яны — тавар і прытым сексуальны. Паліцыю ж, паводле маіх назіранняў, цікавіў не тавар сам па сабе і яго́ныя прафесійныя заняткі... Але пра гэта трошкі пазней. Мне ж была цікавая "эпапея" трох "рускіх дзяўчат" і неабходнасць (непазбежнасць?) іхняга з'яўлення тут.

І яшчэ адна дробязь: ніхто ў паліцыі не прымушаў нашых суайчынніц гаварыць. Толькі па жаданні і толькі тое, што палічаць патрэбным. Кава? Калі ласка. Цыгарэты? Няма праблем.

Іхняе падарожжа пачалося ў Кіеве, дзе яны, паводле словаў блакітнавокай "Шахеразады" (бухгалтар, эканаміст і выкладчыца англійскай мовы), сустрэліся дзякуючы рэкламе адной з украінскіх фірмаў, якая гарантавала "новае жыццё ў Германіі" і абяцала давезці да гэтага "новага жыцця". "Працай якой-небудзь мы вас забяспечым, а з вашымі "дадзенымі" вы і за немцаў замуж выйсці здолееце. Грошы на гэтае мерапрыемства мы вам пазычым".

— Мы ехалі не на прастытуцыю. Калі вы так падумалі, дык памыліліся. Я, да прыкладу, вельмі спадзявалася знайсці тут хаця б прыватныя ўрокі англійскай. (Калі ёй далі англійскі тэкст і яна пачала яго чытаць, дык нават я зразумеў, што зямлячка "трошкі маніць".)

Прадстаўнік фірмы, Серж, пасадзіў іх у іншамарку, і яны паехалі праз Украіну і Польшчу ў Германію, каб пачаць новае жыццё...

Хіба гэта першая "экспедыцыя" рускіх жанчын у Еўропу? Тысячы іх працуюць у нелегальных публічных дамах, спадзеючыся зачапіцца, уладкавацца, па магчымасці, на іншую працу, набыць легальны статус і — вяршыня мараў! — выйсці замуж. Усім вядома, што рускія жанчыны маюць поспех не толькі на сексуальным рынку, але і на шлюбным.

— Мы чулі, што можна падаць хадайніцтва аб палітычным прытулку, — казала Бялявая, — але не ведалі, як гэта зрабіць на радзіме. І вырашылі падаць яго тут. І наогул, што ні кажы, "тут" будзе лепей, чым "там". Не, нас ніхто не прымушаў ехаць сюды. Гэта наша рашэнне.

Ім растлумачылі, што палітычны прытулак прадастаўляецца толькі тым асобам, якім на радзіме з палітычных, нацыянальных альбо рэлігійных прычын пагражае смерць.

— Але мы гэтага не ведалі...

На мяжы Серж высадзіў дзяўчат з машыны, і нейкія людзі пераводзілі іх на "іншы бок", а там Серж, разлічыўшыся з памагатымі, вёз іх далей. У Германіі ён прывёз іх у гэты самы бар, пакінуўшы кожнай па 700 марак на адзенне і таксі(!). (Трэба ведаць кошт праезду ў гэтым транспарце тут, каб разумець, якую надзею ўскладалі гаспадары мерапрыемства на гэтых прыгажунь.) Яны і ездзілі на таксі па модных крамах у суправаджэнні жонкі гаспадара бара. І някепска, маркуючы па тым, як яны выглядалі ў паліцыі, апрануліся. Бялявая распавядала пра гэта так, што стала зразумела: на радзіме таксі таксама было іхнім "родным" відам транспарту. "Уладкуецеся — адпрацуеце", — сказаў Серж. (У паліцыі лічаць, што "адпрацоўваць" ім давялося б не за прылаўкамі крамаў альбо з анучай у руках...)

Серж паабяцаў праз тыдзень вярнуцца з чэшскімі альбо польскімі пашпартамі і, пакінуўшы дзяўчат пад апякунства жонкі гаспадара бара, сімпатычнай полькі гадоў трыццаці, паехаў. (Гісторыя "гаспадыні" таксама цікавая: яна была такой самай "дзяўчынай", як і нашы гераіні, і, калі яе збіраліся выслаць з Германіі, гаспадар "установы" вырашыў з ёю ажаніцца. Значыць, шанцуе некаторым? Чаму ж "нашым" не можа пашанцаваць?)

Гаспадар правёў з імі "інструктаж": не лезці нікому на вочы, не ўваходзіць у кантакт, пакуль не вернецца Серж. Праз два дні, уначы, калі яны ўжо леглі спаць (вось чаму іх убачылі аголенымі!), у "пуф" завітаў рускі. Гаспадыня зайшла да іх і прапанавала далучыцца да балявання: госць хоча "пасядзець" разам з землячкамі: "Гаспадар дазволіў".

"Але мы адмовіліся", — з гонасцю вымавіла Бялявая, паглядзеўшы на паліцыянтаў блакітна-наіўнымі вачыма. "Што было далей?" Далей усё было па-руску. П'яны госць увараваўся ў іхні пакой і пачаў... расшпільваць штаны! А тут раптам з'явіліся паліцыянты і забралі іх у пастарунак. Вось і ўся гісторыя, што здарылася з бухгалтаркай, эканамістам і выкладчыцай на другі дзень знаходжання ў блаславёнай Германіі.

Сэнс размовы з "дзяўчатамі" быў, як я зразумеў, такі: выйсці на ланцужок "Кіеў — мяжа — Германія", гэта значыць, "Серж — праваднік — гаспадар нямецкага "пуфа". Бо "дзяўчат" і прыцягнуць да адказнасці можна толькі за нелегальнае знаходжанне ў краіне. (Іх, такіх нелегалаў, у Германіі цяпер дзесяткі тысяч.) А за тое, што прадавалі (ці хацелі сябе прадаць), — дык бяры "патэнт" і — працуй хоць каралевай, хоць прастытуткай — усе прафесіі патрэбныя. Прастытуткай нават лепей, бо беспрацоўе не закранула гэтую катэгорыю працоўных, а каралеву могуць, у прынцыпе, і скінуць. Не таму прывезлі іх у пастарунак, а таму, што паліцыі патрэбныя інфарматары.

Скончылася тым, што дзяўчатам прапанавалі правесці ноч у Frauenhaus (жаночы дом) — спецыяльнай дабрачыннай установе, дзе кожная жанчына, пакрыўджаная мужам, каханкам, грамадствам, можа пераначаваць без прад'яўлення дакументаў. Бясплатна. Нашы дзяўчаты адмовіліся. Тады двух украінак адвезлі ў той самы бар, папярэдзіўшы, каб нікуды не з'язджалі: праз некалькі дзён іх адвязуць у Камісію па справах замежных грамадзян і там вырашаць, як іх адправіць на радзіму.

А беларуску, якая гаварыла шмат, падрабязна і ахвотна, пакінулі яшчэ на паўгадзінкі. Ёй прапанавалі супрацоўніцтва. Калі яна пагодзіцца, дык ёй дадуць статус asüland — чалавека, які просіць палітычнага прытулку. Яна, безумоўна, яго не атрымае, але пакуль справа будзе разглядацца, яна пажыве тут год, ёй дапамогуць наняць кватэрку, яна будзе атрымліваць невялікія грошы... Карацей, элементарная вярбоўка, што існуе паўсюль.

Я не ў стане кінуць камень у нямецкую паліцыю: несумненна, гэта каштавала таго — і грошы, і кватэра, — каб зачыніць хаця б адзін канал гандлю жывым таварам...

— Я падумаю, — адказала прыгажуня.

... На золку, калі ўсе яны яшчэ былі ў паліцыі, я папытаўся ў "дзяўчат":

— Вам не боязна тут, на чужой зямлі, у паліцыі?

— Што вы! Гэтай паліцыі мы не палохаемся. Тут не зневажаюць і не б'юць. Вы ж чулі: нам ніводнага разу не сказалі "ты". І — кава, цыгарэты... Нават вельмі сімпатычныя мужчыны. За такіх пайсці замуж — адно задавальненне.

Уся іхняя жаночая сутнасць падчас размовы пералівалася ўсімі магчымымі фарбамі і адценнямі...

А тое, што яны ўмеюць і хочуць падабацца, было відавочна. Прафесійнае ўменне... Як зіхацелі з густам падабраныя завушніцы ў ружовых вушках маіх суайчынніц! Як натуральна і зграбна закідвала нагу за нагу зеленавокая Брунетка...

Няшмат такіх жанчын можна пабачыць у афіцыйных публічных дамах Брэмена на вуліцы Алены, на якой мне аднойчы давялося пабываць. Я ж ніколі раней не бачыў "законных" публічных дамоў. "Нашы" б там былі чэмпіёнкамі. Параўноўваць іх з "мясцовымі" не мае сэнсу. Ды і рыхтаваць іх да такой "працы" не трэба — яны ўжо падрыхтаваныя. Яны былі гатовыя "дзейнічаць" нават у паліцыі. Яны адчувалі задавальненне ад стасункаў з выхаванымі хлопцамі, хай сабе нават і паліцыянтамі. Яны былі такімі прывабнымі, што калі высветлілася, што кошт выратавальнага (фіктыўнага) шлюбу — 10 тысяч марак, адзін малады паліцыянт не вытрываў і сказаў, што ў яго ў банку на рахунку ляжыць якраз такая сума і ён не жанаты, і калі б у яго была такая прыгожая жонка, дык ён бы пагадзіўся плаціць "наадварот". Бялявая адказала, што яна — не супраць. Паліцыянт (гаротны хлопец!), "прачнуўшыся", збянтэжана паведаміў, што ён пажартаваў... Але ж было бачна, што яму — не да жартаў. Я яму паспачуваў...

А яшчэ я пашкадаваў, што такіх жанчын мы аддаем "чужому дзядзьку", як быццам нам самім не патрэбныя прыгожыя і здаровыя жонкі, якія нараджаюць прыгожых і здаровых дзяцей...

Нібыта маленькія народы Поўначы — для сябра і жонкі не шкада. Дык гэта ж — сябру, а тут — бясплатна, усяму свету, каб зневажалі, ганьбілі... "Што ж з намі адбываецца?" — зноў гучыць пытанне-крык Шукшына.

Усё проста. Жыццё... Яго для сябе кожны абірае асабіста: і нашы дзяўчаты, і нашы хлопцы, і наша дзяржава — усяму пачатак. Толькі вось куды падзецца народ?

Усё проста, акрамя самога жыцця, якое загадвае загадкі, не пакідаючы людзям разгадак. І людзі вымушаны іх шукаць — з поспехам альбо не. Нехта ў працэсе разгадвання робіцца "новым рускім", а нехта — прастытуткай.

— Ці вам неставала сваёй працы альбо сваіх мужчын перабудова пазабівала?

— Ды не, з мужчынамі ўсё ў парадку, а вось грошай — вельмі ўжо мала... Мы ж — жанчыны...

**Навум ЦЫПІС,**
**наш уласны карэспандэнт у Брэмене**

**P.S.** Беларуску таксама адвезлі ў бар. Калі трэба было ехаць у Камісію па справах замежных грамадзян, "дзяўчат" у бары не было. "Дзе?" — "Не ведаем".

**Н.Ц.**

ТРОХІ ПРА ВЕЧНАЕ

# 17 СНЕЖНЯ – ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА КІНО

***У гэты дзень 73 гады таму пры Народным камісарыяце асветы БССР было створана Дзяржаўнае ўпраўленне па справах кінематаграфіі і фатаграфіі (Белдзяржкіно).***

***Прапануем фотавернісаж Ігара РЭМІШЭЎСКАГА. На гэтых здымках зняты тыя рэжысёры, з якімі ў розныя гады ён працаваў над фільмамі ў якасці аператара-пастаноўшчыка і якія, на жаль, ужо скончылі зямны шлях.***

**Ала БАБКОВА**



***Юрый Мікалаевіч ДУБРОВІН (1937 — 1983 гг.)***
Рэжысёр, акцёр. Сыграў ролю Крывёнка, былога штрафніка, салдата са шнарамі на твары і ў душы ў фільме Рычарда Віктарава "Трэцяя ракета" паводле аповесці Васіля Быкава (1963 г.). Рэзананс мела яго невялікая тэлестужка "Снежны конь", якую ў адным крытычным артыкуле назвалі "своеасаблівым тэлевершам з лірычным аўтарскім светаўспрыманнем" (1965 г.). Сярод пастаўленых фільмаў яму ўдаліся тэлестужка "Побач з вамі" з цудоўнай Аляксандрай Клімавай у ролі сціплай машыністкі (1967 г.) і трохсерыйная "Вашынгтонскі карэспандэнт" (1972 г.), у якой адлюстравана грамадская атмасфера ў ЗША пасля забойства Джона Кенэдзі і жыццё журналісцкага асяроддзя. У 60 — 70-я гады папулярнасцю карысталіся тэлеперадачы Юрыя Дубровіна "Сябрам дзесятай музы".

***Мікалай Арцёмавіч КАЛІНІН (1937 — 1974 гг.).***
Тэатральны рэжысёр, пастаноўшчык кіна- і тэлефільмаў. Дэбютаваў у 1967 г. на Беларускім тэлебачанні кароткаметражкай "Камлючок пачынае шлях". У 70-я гады зрабіў тэлефільм "Тыя, хто ідзе за гарызонт", кінафільмы "Створы бой", "Рудабельская рэспубліка", тэлесерыялы для дзяцей "Корцік" і "Бронзавая птушка" (па 3 серыі кожны фільм). Быў супастаноўшчыкам Уладзіміра Корш-Сабліна на фільме "Крушэнне імперыі" (1972 г.). Мікалай Калінін не здзейсніў творчыя мары, якія тычыліся асобных твораў беларускай літаратуры.





***Віктар Цімафеевіч ТУРАЎ (1936 — 1996 гг.)***
Кінематаграфіст Боскай міласцю. Вучань Даўжэнкі, "аднакашнік" Ларысы Шапіцька, сябра Уладзіміра Высоцкага. У 60-я гады за мяжой беларускі кінематограф ведалі па яго стужках "Праз могілкі" і "Я родам з дзяцінства", у 80-я — па дылогіі "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы" паводле "Палескай хронікі" Івана Мележа. Апошняй яго стужкай была экранізацыя рэалістычных і містычных гісторый Яна Баршчэўскага "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" (1994 г.). Ён меў амаль усе ўрадавыя ўзнагароды (акрамя Ленінскай прэміі). Стужка "Праз могілкі" рашэннем ЮНЕСКА ўнесена ў лік ста лепшых стужак усіх краін і народаў (1994 г.), а фільм "Я родам з дзяцінства" беларуская крытыкі назвалі лепшай стужкай за ўсю гісторыю існавання нацыянальнага кіно (1995 г.).

***Леў Уладзіміравіч ГОЛУБ (1904 — 1994 гг.).***
Народны артыст БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі і лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Рэспублікі. З кагорты старэйшых. Творчы шлях пачаў у 1928 годзе (спачатку на Украіне, а ў пасляваенныя гады на Беларусі). Яго жартаўліва называлі "рэжысёрам у чырвоным гальштуку": ён быў пастаноўшчыкам васьмі стужак для дзяцей (у 50-я — 70-я гады). Фільмы Л.Голуба "Міколка-паравоз", "Дзяўчынка шукае бацьку" і іншыя добра ведалі юныя гледачы не толькі былога Савецкага Саюза. "Дзяўчынка...", якая адкрыла таленавітую актрысу Ганну Камянкову яшчэ ў пяцігадовым узросце, атрымала прэміі Усесаюзнага, Зональнага фестываляў, а таксама Міжнародных кінаагляддаў у Мардэль-Плата (Аргенціна) і Бергама (Італія).



***Барыс Міхайлавіч СЦЯПАНАЎ (1927 — 1992 гг.)***
Разам з іншымі маладымі рэжысёрамі ў сярэдзіне 60-х гадоў узняў "новую хвалю" ў беларускім кіно. Фільм "Альпійская балада", зроблены паводле аповесці Васіля Быкава, увайшоў у лік любімых карцін маладзёжнай аўдыторыі 60-х гадоў. Рэжысёр звяртаўся да ваеннай гісторыі краіны і ў 70-я гады, зняўшы фільмы "Воўчая зграя" (паводле аповесці Быкава) і "Бацька" (аб трагічным лёсе дзяцей партызанскага камандзіра Міная Шмырова). Барысу Сцяпанаву таксама належыць спроба гістарычнага фільма "Я, Францыск Скарына". Прыкметнымі на час 80-х гадоў сталі яго тэлевізійныя стужкі "Дзяржаўная мяжа" (фільмы першы і другі).



***Віталь Паўлавіч ЧАЦВЕРЫКОЎ (1933 — 1983 гг.).***
Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі. У 70-я гады стварыў шэраг цікавых дакументальных фільмаў. Асвойваў жанр кінаэпапеі, паставіўшы ў другой палове 70-х — пачатку 80-х фільмы "Полымя" (пра партызанскі рух на Беларусі), "Чорная бяроза" (пра цяжкасці пасляваеннага адраджэння), "Паводка" (аб драматычных выніках умяшання чалавека ў прыроду). Найбольш удаўся рэжысёру шасцісерыйны тэлевізійны фільм "Руіны страляюць..." — пра героіку і трагедыю мінскага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1972 год).



К КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ГІЛЕП**, **Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ**, **Аляксей ДУДАРАЎ**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алесь РАЗАНАЎ**, **Віктар СКАРАБАГАТАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Леанід ШЧАМЯЛЁЎ**.

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА**, **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый **— Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4156.

Падпісана ў свет 11.12.97. у 18.00.
Замова 7363

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**